PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 28 (2043) ГОД XL БЕЛАСТОК 9 ЛІПЕНЯ 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)


*Шаленства купальскай ночы.* Фота з архіва

*Мікола Ваўранюк*

## БЕДНЫХ І КЛЯШЧЫ КУСАЮЦЬ

26 чэрвеня збіралася на чарговай сесіі Гмінная рада Дубіч-Царкоўных. Народныя абраннікі раілі доўга — ад 10-ай да 18-ай гадзіны — і падрабязна над кожным пунктам. Асабліва спачатку, калі было яшчэ многа энергіі. Пад канец, памучаныя, галасавалі за чарговымі пастановамі вельмі шпарка.

### Найважнейшыя выбоіны

Дзве з паловай гадзіны ўзяла справа заманціравання ў дубіцкай царкве асцерагальна-выкрывальнага сігналізатара супраць пажару і ўзлому. Радны Ежы Нэстэрук спачатку запатрабаваў, каб гмінная ўправа паказала грамадзянскую адвагу і першай заняла пазіцыю — даць грошы на правады ці не. Управа была змушана ў перапынку сесіі сабрацца на нечарговы сход, пасля якога сказала, што хоча даць царкве грошы, але ўжо няхай Рада вызначыць колькі. Рада зноў доўга абмяркоўвала гэтае пытанне, пасля чаго, у тайным галасаванні, вырашыла, што грошай не дасць увогуле. Прысутны на сесіі бацюшка Віталій Гаўрылюк сказаў пасля гэтага: *Дзякуй радным за развагу ў галасаванні. Калі, не дай Бог, што-небудзь царкве станецца, вы будзеце адказнымі. Памятайце пра гэта. Я грошай не прасіў сабе, гэта ж не мая бацькаўшчына. Я сёння тут, а заўтра мяне можа ўжо не быць.*

Старшыня Рады **Сяргей Нічыпарук** падсумаваў галасаванне такім чынам: *Тое, што сталася, ускалыхнула мною ў такой ступені, што я не магу засяродзіцца, не магу весці сесію. Гэтую, па меры магчымасцей, пастараюся давесці да канца, але на наступнай складу свае паўнамоцтвы. Я не магу старшынстваваць такому збору. Ужо можаце думаць пра майго наступніка.*

Наступныя дзве гадзіны былі адведзены справе дарог і вясковых вуліц. Гэты пункт распаліў найбольшыя страсці. Камісія прасторавага планавання прадставіла свой праект рамонтаў дарог да канца кадэнцыі Рады, г.зн. да 1998 года Сёлета на гэтую мэту прапануецца адвесці 570 мільёнаў старых злотаў. Скрытыкаваўшы дакладна праект і ўдоваль нагаварыўшыся, Рада прыняла яго амаль без змен.

### Палякі з Казахстана ў Дубічах?

2 чэрвеня Дубічы-Царкоўныя наведаў старшыня Таварыства „Wspólnota Polska" праф. **Анджэй Стэльмахоўскі.**

*Працяг на стар. 3*

*Васіль Сакоўскі*

## Беларускае школьніцтва і алімпіядная каніцель

Ужо з паўгода і па Беластоцкаму радыё, і ў прэсе, і на афіцыйных і неафіцыйных сустрэчах дзяжурнай, як кажуць, тэмай з'яўляецца беларуская алімпіяда, у якой чамусьці многія ўбачылі, калі не цудоўнае выратаванне, дык напэўна магутны шанц для нашай беларускай меншасці ў Польшчы. Аптымісты з іх.

Пры гэтай тэме востра крытыкуецца Гайнаўскі беларускі ліцэй, які да алімпіяды не прыступіў, і асабіста мяне. З мяне зрабілі проста ненасытнага алімпіядаеда. А я „цэ така смышно-ўпердліва людына, яка незаслужанай крытыкі просто нэ любіт. І тількі". Вось гэтая мая рыса і папхнула мяне напісаць гэты адказ. Калі хтосьці пачуецца пакрыўджаным, прачытаўшы яго, прашу прабачэння, гэта я ад злосці. А да злосці давялі ж мяне Вы.

Алімпіяда беларускай мовы, канешне, рэч важная і сур'ёзная, але ў нашай сучаснай сітуацыі не найважнейшая. А ўжо такая алімпіяда, якой хвалімся што дабіліся, лічу зусім непатрэбнай, бо яна нічога нам не дае і нічога не вырашае. На мой сціплы погляд гэта адна з чарговых нашых паказух.

Актуальна найважнейшай нам справай лічу ўмацоўванне і пашырэнне нашага беларускага школьніцтва, бо як знікне тут беларускае школьніцтва, то ў агульнапаланізацыйнай стыхіі пачне хутка занікаць і наша беларуская нацыя.

Цяпер зусім не тое, што было калісьці. Старэйшыя пакаленні тутэйшых нашых беларусаў, хаця і не вучыліся ў беларускіх школах, але дасканала ведалі наш беларускі дыялект, які не так ужо моцна і розніцца ад беларускай літаратурнай мовы, любілі і шанавалі яго. Помніцца мне, як востра насмейваліся з тых, хто пабываўшы дзесьці ў свеце, вярнуўшыся дадому пачынаў — як казалі — „пшэкаць" па-польску. І ён, пачуўшы гэта, хутка пераставаў „пшэкаць". Любілі і шанавалі таксама свае звычаі і традыцыі. І найважнейшае, усе мы выхоўваліся ў духу любві і пашаны да нашага ўсходняга суседа, яго моў, традыцыі і культуры. Гэтая пашана і любоў моцна закаранілася ў нас.

Маладое ж нашае пакаленне зусім іншае. Яно ў асноўным спаланізаванае ўжо. Не толькі не ведае, а нават не разумее беларускай мовы, літаратуры, гісторыі, але і думае ўжо не па-беларуску, а па-польску. Гэтая думка заключаецца ў асноўным на тым, што ўсё добрае, годнае ўвагі — па-іхняму — знаходзіцца на захад ад усходняй польскай мяжы, значыць у Польшчы і ў асноўным у заходніх краінах і Амерыцы. А зараз жа на ўсход ад нашай усходняй мяжы пачынаецца — па-іхняму — пагалоўная азіятчына, са сваім брудам, дзікасцю, эканамічным і культурным убоствам.

З такімі паняццямі змагацца вельмі цяжка, а трэба. Тым больш, што апрача школы няма каму змагацца з гэтым. Сям'я наша часцей за ўсё не падрыхтавана да такой ролі і не рвецца да яе, а часта нават перашкаджае. Ёсць такія бацькі, нават на вёсках, якія змушаюць дзяцей сваіх гаварыць толькі па-польску, хаця самі добра не ведаюць гэтай мовы. І канешне, не памогуць дзіцяці гэтым, а толькі скалечаць яго. Царква наша таксама лічыць, што выхоўванне маладога пакалення ў духу нацыянальнага гонару і годнасці гэта не яе справа. Вось і маем тое, што маем, а выглядае на тое, што будзе яшчэ горш.

А што ж, гаворачы пра беларускае школьніцтва на Беласточчыне, мы менавіта маем? Якое яно ў нас?

Аж сорамна прызнацца, але няздобра маецца беларускае школьніцтва ў нас. Яно і не ўмацоўваецца, і не пашыраецца (за малымі, канешне, выключэннямі), а наадварот, курчыцца, занепадае.

Прычын такога стану можна дашукацца, канешне, многа. Ёсць прычыны ад нас незалежныя, аб'ектыўныя, як напрыклад тое, што беларуская мова зусім не шануецца ў самой Беларусі, што для нармальнага чалавека павінна з'яўляцца парадаксальным, каб не сказаць ідыятычным. Ёсць і суб'ектыўныя прычыны. І менавіта пра іх трэба нам пагаварыць. І пагаворым, але пазней крыху.

Калісьці навучаліся беларускай мове ў многіх-многіх пачатковых нашых школах і ў пяці сярэдніх. Цяпер вучацца толькі ў двух сярэдніх і нямногіх

*Працяг на стар. 5*

 

# Доўгі Брод у мутнай вадзе

Нарва хоча стаць горадам. О, выбачайце, не Нарва, толькі Narew, як усвядомілі нас працаўнікі гмінный управы.

— Tak to mówią po prostu tylko stare babcie.

Каб даказаць, што народ не хоча вяртацца да старога, тут жа, спецыяльна для нас, наладзілі міні-рэферэндум.

— Pani Lido, — паклікалі прыбіральшчыцу. — Czy chce pani aby nasza Narew nazywała się Narwa?

— Ja? — упэўнілася пані Ліда. — Nie, nie chcę.

— O, sami państwo widzą.

У падобны спосаб думаюць жыхары іншых мясцовасцей гміны. Пшыбудкі не хочуць быць Прыбудкамі.

— Bo i po co to zmieniać? — чуем у гміне. — Jak przyjedzie warszawiak, to i tak nazwie po warszawsku.

А ўвогуле, увесь гэты закалот з назвамі, то толькі клопат. У гміне — без гэтага хапае турбот.

— Калі станем горадам, будзе інакш, — даказваюць жанчыны, — будуць чысцейшыя вуліцы...

* * *

— Яновіч змарнаваў справу, — гаворыць войт гміны Бельск-Падляшскі **Юры Ігнацюк.** — Спачатку трэба было весці працу з людзьмі. У эфекце ўсё застанецца па-старому. Дарэчы, я не згаджаюся з усімі прапанаванымі Яновічам формамі запісу назваў мясцовасцей.

— Для гаспадароў якіясь там назвы, гэта малаістотная справа, — кажа войт Орлі **Міхал Іванчук.** — Калі б мы ў гэтай справе пачалі па вёсках склікаць сходы, сказалі б: о, дурніцамі займаюцца. А калі загадваюць зверху, выклікае толькі варожасць. Тэма спіць, ніхто не мае часу пра яе думаць. Трэба, каб прыехалі адукаваныя людзі, пагаварылі з сялянамі, прадставілі гістарычныя аргументы, далі што пачытаць. Тады пра гэта пачалі б гаварыць сусед з суседам.

Войт Іванчук прадбачвае таксама непрыхільныя рэакцыі польскага грамадства.

— Хочуць тут будаваць Беларусь, — скажуць, — бо там не ўдалося. А мы другой Чачні не хочам.

У Чыжоўскай гміне разважаюць змену назвы аднае вёскі — Кленік, якія афіцыйна называюцца Клейнікі. Плануецца там рэферэндум, няхай самі жыхары скажуць сваё слова. Працаўнікі гміны будуць самі хадзіць па хатах і размаўляць з жыхарамі.

— На вясковыя сходы прыходзіць 30% вяскоўцаў, а мы хочам апытаць усіх дарослых грамадзян, — гаворыць войт **Рыгор Мацкевіч.**

Гэтак сама гэтае пытанне хоча развязаць у сябе **Гарадок. Гэта адзіная гміна, якая падтрымала ініцыятыву Беларускага саюза ў справе вяртання гістарычна і этнаграфічна правільных назваў мясцовасцей Беласточчыны.** Сваю падтрымку накіравалі ва Управу Рады Міністраў. „Апрача гэтага, хацелі б мы дастаць інфармацыю, — пісаў старшыня Гміннай рады **Уладзімір Лукошык,** — ці двухмоўныя ўказальнікі з назвамі мясцовасцей (другая назва ніжэй афіцыйнай, напісаная меншымі літарамі) цяпер дазволены законамі. Ці ў гэтай справе зацікаўленым жыхарам можам даваць станоўчы адказ?"

У 1984 годзе **жыхары Доўгага Броду** ў Дубіцкай гміне вырашылі перад сваёй вёскай паставіць таксама ўказальнікі на беларускай мове. Падрыхтаваныя табліцы былі канфіскаваныя службай бяспекі. Да сёння яны не вернутыя ўласніку.

**Mieszkańcy wsi Długi Bród, obecni na zebraniu podjęli decyzję, że organizacja partyjna w imieniu mieszkańców wsi wystąpi do Naczelnika Gminy Dubicze Cerkiewne — dla uczczenia 40-ej rocznicy wyzwolenia i zbliżającego się Zjazdu BTS-K z wnioskiem o ustawienie tablic drogowych z dwujęzyczną nazwą wsi (w języku polskim i białoruskim). Tablice mieszkańcy wykonają w czynie społecznym. Gwarancje te wypływają z zasad konstytucyjnych i polityki Partii.**

**Długi Bród,**
**dnia 18 marca 1984 r.**

Пратакол са сходу жыхароў вёскі. Перадрук за: „Архіўны сшытак", верасень 1983 — кастрычнік 1987.

**(...) w naszej administracji jest — jak widać — osobisty przeciwnik litery „h", który zawziął się, by usunąć ją ze wszystkich nazw geograficznych i uniemożliwić powrót; Hajnówka, Hawaje, Honolulu i Hrubieszów baczność! Wkrótce przyjdzie kolej i na was!**

Tom. „Polityka", 29.04.1989 r.




* * *

— Ідэю вяртання гістарычных назваў мясцовасцей на Беласточчыне трэба безупынна пашыраць, — гаворыць **Яўген Вапа,** старшыня Беларускага саюза ў Польшчы, родам з Доўгага Броду, — пераконваць да яе грамадства і органы тэрытарыяльнага самакіравання. Усё залежыць ад ініцыятывы грамадскасці ў кожнай гміне, а нават ад актыўнасці адзінак, бо толькі мясцовыя людзі папраўдзе могуць пераканаць сваіх суседзяў. Вядома, што толькі самаўрад можа прыняць такое рашэнне. Напэўна аніякага карыснага для нас „націску" з боку ваяводскіх ці цэнтральных улад не будзе.

— У нас няма людзей, якія працавалі б над развязкай гэтай праблемы, — кажа **Ян Тапалянскі,** ініцыятар заснавання Саюза гмін Усходняй Беласточчыны, былы войт, а цяпер радны ў Нарве. — Вы здзіўляецеся таму, што пачулі ў гміне. А што такія працаўніцы могуць сказаць?

— Назвы, імёны — гэта нацыянальны скарб, — кажа **Сакрат Яновіч,** — які трэба абараняць. Праўда, малая надзея, што гэта ўсё сёння знойдзе ў нас зразуменне. Праца Ярослава мае хутчэй навукова-тэарэтычны характар. Можа калісьці ўнукі да гэтага вернуцца.

— Людзей, якія забываюць сваіх бацькоў, свае імёны, сваю спадчыну, — гаворыць **Лявон Тарасэвіч,** — ва ўсім свеце называюць здраднікамі. Будучыя пакаленні ім гэтага не даруюць.

**Ганна Кандрацюк**
**Мікола Ваўранюк**
**Фота з архіва**

# БЕДНЫХ І КЛЯШЧЫ КУСАЮЦЬ

*Працяг са стар. 1*

Пра гэты візіт і пра спробы завязання супрацоўніцтва між гмінай і Таварыствам гаварылі на сесіі Рады войт **Анатоль Паўлоўскі** і старшыня Рады **Сяргей Нічыпарук.** З іх перамоў з праф. Стэльмахоўскім вынікала, што „Wspólnota Polska" можа дапамагчы ў эканамічным развіцці гміны, толькі гміна павінна апрацаваць бізнес-план, як перастаўіца на экалагічна чыстую прадукцыю, асабліва — лекавыя зёлкі. Узамен за дапамогу „Wspólnota Polska" пасяліла б у гміне некалькі сем'яў палякаў з Казахстана. Войт запрапанаваў праф. Стэльмахоўскаму, каб яго таварыства купіла для гміны тыя хаты, якія хочуць прадаць жыхары, а гміна наймала б іх потым перасяленцам. *На сённяшні дзень знайшоўся адзін ахвотны прадаць хату,* — гаварыў войт, — *гэта пан Шэлест з Вярстка. Мы нават завезлі туды прафесара, каб пабачыў нашу беларускую вёску. Быў ён у хаце, спадабалася яму. Аднак не склаў ён яснай дэкларацыі, ці мае на гэта грошы. Ну і гміна не можа гарантаваць такім кватарантам працы.*

— *Я віноўнік гэтага ўсяго замяшання,* — прызнаваўся старшыня Нічыпарук, — *бо то я запрапанаваў пасяліць іх тут. Гэтыя людзі з Казахстана ў кожным іншым месцы Польшчы будуць успрымацца як кацапы чужымі. Яны ж у большасці не гавораць па-польску, а ў нас тут амаль не будзе моўнай праблемы. Сваёй прапановай хацеў я звярнуць увагу на нашу гміну і атрымаць сродкі на яе развіццё. Як ведаеце, раней быў праект, каб кожная польская гміна прыняла адну польскую сям'ю з Казахстана. Праект праваліўся, у Польшчу пераехала ўсяго адна сям'я. Цяпер на гэтую мэту напэўна будуць адведзены адпаведныя сродкі з дзяржаўнага бюджэту і, пэўна, гміны стануць у чаргу па гэтыя грошы. Сваёй прапановай я хацеў афарміць тры справы: па-першае, перасяленне людзей з Казахстана адбылося б не за нашыя грошы, па-другое, гміна атрымала б сродкі на стварэнне месц працы для іх — у задуме перапрацоўка лекавых траў,* — *дзе працу атрымалі б таксама нашыя жыхары, ну і па-трэцяе, равіццё асяродка ў Старыне.*

На сённяшні дзень ніхто не падняўся апрацаваць для гміны бізнес-план, бо няма адпаведных спецыялістаў па выкарыстанні лекавых раслін. Стэльмахоўскі не даў грошай на адпачынак у Старыне польскіх дзетак з Усходу, бо з 6 старых мільярдаў на гэтую справу Сейм абрэзаў яму дзве трацiны. Войт атрымаў ад Рады паўнамоцтвы (хоць толькі васьмю галасамі на 15) для далейшых перамоў і пошукаў выканаўцы бізнес-плана. Аднак радныя ставіліся да ідэі холадна.

— *Калі вы мяне абіралі старшынёй,* — гаварыў **Сяргей Нічыпарук,** — *я абяцаў рознымі спосабамі, у тым і нетыповымі, старацца разрэкламаваць нашу гміну вонкі. Вы думаеце, што мы да шчасця патрэбныя праф. Стэльмахоўскаму? На тое, што ён сюды прыехаў, я працаваў дзесятак гадоў. Пэўна, ніхто не дае гарантый, што з маёй прапановы адразу будуць вялікія грошы. Але тады дайце свае, лепшыя прапановы. Ёсць, безумоўна, яшчэ адзін выхад, нічога не рабіць і наракаць, што нам кепска.*

На дадатак, Дубіцкая гміна не заробіць сёлета на асяродку ў Старыне столькі, колькі планавалі, бо патэнцыяльных дачнікаў напалохаў... клешч. Адзін з радных, пачуўшы гэта, сказаў: *Бедных, то і кляшчы кусаюць.*

### Балканскі кацёл

Войт Анатоль Паўлоўскі прадставіў Гміннай радзе справу вяртання гістарычных беларускіх назваў дзесяці мясцовасцям у гміне і запрапанаваў дзве развязкі. Адна такая, што паколькі з ідэяй выступіў жыхар Лодзі Яраслаў Яновіч, то яе проста адкінуць, а другая, то правесці кансультацыі з жыхарамі тых вёсак і толькі тады прыняць адпаведную пастанову і пераслаць яе далей.

— *Паводле мяне,* — узяў слова радны **Ежы Нэстэрук,** — *слушнае першае рашэнне. Мы маем больш важныя праблемы. Хтосьці сядзіць сабе ў Лодзі і на сілу хоча зрабіць шчаслівымі людзей, якія добра ведаюць смак гэтай зямлі.*

Раней, у час перапынку, радны Нэстэрук гаварыў яшчэ, што *такія выдумкі псеўдадзеячаў будуць распальваць толькі непатрэбныя нацыяналізмы.* Іншыя радныя дадавалі ад сябе: *нам не патрэбны балканскі кацёл, няхай сабе сам Беларускі саюз праводзіць кансультацыі, за свае грошы.* Адзінаццацю галасамі Рада вырашыла, што ніякія кансультацыі не патрэбныя.

Далей сесія пакацілася гладка да шчаслівага заканчэння.

**Мікола Ваўранюк**

# ЖЫДЫ

Калі б мне давялося пісаць гісторыю, хаця б нават кароткую распрацоўку, пра нашых, тутэйшых яўрэяў, я не напісаў бы праўдападобна нічога канкрэтнага, акрамя нейкіх абагульненняў. Не змог бы зрабіць аналізу іх стаўлення так да санацыйных улад і польскага народа, як пасля да савецкай рэчаіснасці ў 1939—1941 гадах і да савецкага народа, бо я сярод яўрэяў не жыў, а толькі памятаю тое, што мне засталося ў памяці ад дзяцінства. З жалем трэба сказаць, што і гэтага было мала, бо яўрэі на выган са мною не хадзілі, а я не хадзіў з імі па навакольных вёсках.

Я з дзяцінства памятаю ўсяго толькі Шломку, Шайку і Геню, ды сталяра, які ў нас рабіў вокны. Памятаю яго, мабыць, толькі таму, што аднойчы я праз вакно ўбачыў (ён быў у хаце, а я — на панадворку), як ён дзіўна маліўся, не па-нашаму, а я пад вакном смяяўся з яго ных кіўкоў і скураных каробак, прымацаваных да лба і рукі. Калі ён закончыў малітву, паклікаў мяне да сябе і сказаў: „Ты яшчэ маленькі і нічога не разумееш, але памятай — не чапай жыда, не скалеш віду".

Я ў вёсцы быў найбяднейшы, ды найгорш пакрыўджаны лёсам, але калі глядзеў на Геню, якая кожны раз з мяшком за спіною і з кошыкам на руцэ вандравала па нашай вёсцы ад хаты да хаты, то мне здавалася, што яна яшчэ бяднейшая за мяне; я босы і галодны, думаў, але ў сваёй вёсцы, а гэтая бедная, старая жанчына ў

*Працяг на стар. 10*



 

# Саюз беларускай моладзі

У пачатку чэрвеня 1942 года нямецкі рэйхсміністр Альфрэд Розенберг выдаў дэкрэт аб стварэнні на акупаваных усходніх тэрыторыях спецыяльнага маладзёжнага аддзела ў нямецкім міністэрстве ўсходніх абшараў (OMI). Па-рознаму ўспрынялі гэты дэкрэт нямецкія акупацыйныя ўлады. Напрыклад, супраць былі генеральны камісар у Коўне фон Рэнтэльн, Кох на Украіне і некаторыя іншыя. А вось Вільгельм Кубэ на Беларусі наадварот, быў прыхільнікам стварэння беларускай маладзёжнай арганізацыі. Ці не з'яўлялася гэта адной з прычын знішчэння В. Кубэ? Бо яшчэ ў снежні 1942 года „полицейские власти в Берлине и Минске начали кампанию, имеющую целью политическую дискредитацию Кубэ, как проводника „противоречащих" интересам Германии белорусских национальных тенденций... 22 сентября 1943 г. погиб в результате покушения, которое, возможно, было инспирировано СС" (менская газета „Свободные новости", н-р 9, май 1993 г.). Менавіта В. Кубэ, як піша далей гэтая газета, пад лозунгам „Беларусь для беларусаў" прапагандаваў ідэі нямецка-беларускай супольнасці зацікаўлення і супрацоўніцтва, клапаціўся аб узнаўленні беларускіх школ і культурных устаноў. Абараняў менскія музеі і бібліятэкі ад рабавання і знішчэння нямецкімі арміямі... Але вернемся да стварэння СБМ.

22 чэрвеня 1943 года, падчас урачыстасці ў Мінскім гарадскім тэатры, Кубэ аб'явіў аб стварэнні Саюза беларускай моладзі. У прыватнасці ён сказаў:

— Дзеля аднастайнага ўзгадавання і арганізацыі беларускае моладзі засноўваецца Саюз беларускай моладзі.

— Узгадаванне беларускае моладзі, апрача бацькоўскага дому і школы з фізічнага, духовага і маральнага глядзішча перадаецца Саюзу беларускае моладзі.

— Заданне ўзгадавання беларускае моладзі ў Саюзе беларускае моладзі перадаецца Кіраўнічаму штабу беларускае моладзі. Дзеля кіравання Кіраўнічым штабам я вызначаю шэфа гэтага штабу, які рэпрэзентуе Саюз беларускае моладзі і мае сваю сядзібу ў Менску.

Гэтае выступленне генеральнага камісара ў Менску Вільгельма Кубэ было апублікавана ў „Беларускай газеце" 22 чэрвеня 1943 года.

Галоўным органам СБМ быў кіруючы штаб на чале з Міхалам Ганько. Працаю сярод дзяўчат на цэнтральным узроўні кіравала Надзея Абрамава.

* * *

**Для спраўкі: Міхал Ганько** нарадзіўся ў 1918 годзе на Маладзечаншчыне, адукацыя незакончаная вышэйшая. Да мая 1941 года працаваў дырэктарам Лужоўскай пачатковай школы Маладзечанскай вобласці. Быў прызваны ў Чырвоную Армію. У канцы 1941 года быў захоплены немцамі ў палон пад Псковам. Пасля заканчэння школы прапагандыстаў каля Берліна быў накіраваны ў генеральны камісарыят Беларусі ў Менск у аддзел прапаганды. У 1944 годзе ўведзены ў склад Беларускай Цэнтральнай Рады, з'яўляўся загадчыкам аддзела моладзі.

**Надзея Абрамава** нарадзілася ў 1907 годзе на Меншчыне, да вайны жыла ў Менску, працавала лекарам псіхіятрычнага аддзялення II клінічнай бальніцы. У 1941 годзе ўступіла ў Беларускую народную самапомач.

* * *

Саюз беларускае моладзі месціўся ў Альбярціне (зараз мікраён Слоніма), дзе навучаліся юнакі, а таксама ў прыгарадзе Драздзы каля Менска (для дзяўчат). Сюды ўваходзіла беларуская моладзь ва ўзросце ад 10 да 20 гадоў. На 1 чэрвеня 1944 года СБМ налічваў 12 635 чалавек і дзейнічаў у 56 раёнах Беларусі.

Друкаваным органам СБМ быў штомесячнік „Жыве Беларусь". Выходзіла і вучэбна-інструкцыйная літаратура — „Вучэбны лісток" і „Дзённік загадаў".

Мэтай Саюзу беларускай моладзі было „ўзгадаванне маладых, ідэйных, мужных і паслядоўных будаўнікоў „Новае Беларусі" і падрыхтаванне іх да іншых будучых заданняў у народзе". Але галоўнай задачай СБМ было правядзенне нацыянальна-патрыятычнага ўзгадавання праз азнаямленне з мінуўшчынаю беларускага народа і краю, вывучэння роднае беларускае мовы і культуры, развіццё нацыянальных асаблівасцей, пазнанне свае Бацькаўшчыны. Важную навучальна-пазнавальную ролю адыгрывалі і разнастайныя экскурсіі па роднаму краю, удзел у святах і ўрачыстасцях, падчас якіх сябры СБМ наладжвалі канцэрты мастацкай самадзейнасці, неслі ў народ свядомае беларускае слова, выступалі з прамовамі, прапагандуючы незалежную Беларусь. Сябры СБМ прымалі таксама ўдзел у рабоце Другога Усебеларускага Народнага Кангрэсу.

Беларускія юнакі і дзяўчаты, якія закончылі курсы СБМ, атрымлівалі адзнакі па наступных дысцыплінах: пачуццё таварыства, стараннасць, рысы характару, паводзіны, кемлівасць, агульныя веды, наяўнасць аратарскіх здольнасцей, знешнія фізічныя дадзеныя, плаванне, лёгкая атлетыка, іграввя віды спорту, спевы, дырыжыраванне, пачатковае навучанне, стралявая падрыхтоўка, камандная мова, уражанне ў цэлым.

Шмат увагі кіраўніцтва СБМ удзяляла сімволіцы. На левым баку грудзей і на галаўным уборы сябры СБМ насілі эмблему саюза, як напамінак аб іхнім „вялікім абавязку працаваць і змагацца на дабро беларускага народа і краю, расці добрымі будучымі грамадзянамі". Эмблема СБМ мела на бела-чырвона-белым ромбе залатое двухкрыжжа, стылізаваны старажытны знак беларускіх князёў. Гэта двухкрыжжа знаходзілася і на шчыце ў вершніка на нацыянальным беларускім гербе Пагоня, які таксама выкарыстоўваўся СБМ. Скрыжаваныя срэбныя рыдлёўка і меч сімвалізавалі працу на карысць Бацькаўшчыны і змаганне за яе незалежнасць. Тут жа знаходзілася выдзеленая чорным колерам абрэвіятура СБМ. Уся эмблема была абведзена бел-чырвона-белай акантоўкаю.



*Юныя эсбээмаўцы са Слоніма, 25.05.1943г.*

Саюз беларускай моладзі не толькі актыўна адраджаў нацыянальную культуру, пашыраў беларускі маладзёжны асяродак, але і абараняў моладзь ад вывазу ў Нямеччыну. На жаль, прасавецкае падполле гэтага не разумела і варожа ставілася да СБМ. Але змагацца з ім, як піша ў сваёй кнізе „Беларусь пад нямецкай акупацыяй" (Менск, 1993 г.) Юры Туронак, падполлю было не так проста. Па-першае, гэтаму перашкаджала малалецтва яго ўдзельнікаў, а па-другое, дзейнасць яго праходзіла ў большасці сваёй на вялікіх гарадах і мястэчках — партызаны не мелі туды шырокага доступу. Знамянальна было і тое, што насуперак настойлівай падпольнай прапагандзе толькі трое кіраўнікоў СБМ пакінулі яго шэрагі і перайшлі да партызан...

У 1993 годзе і сёння некаторыя выданні ў Беларусі змясцілі і змяшчаюць на сваіх старонках адмоўныя артыкулы пра СБМ. Іх аўтары Саюз беларускай моладзі параўноўвалі з „Гітлер'югендам" (HJ) — саюзам гітлераўскай моладзі. Дый хлусня ўсё гэта! Справа ў тым, што многія эсбээмаўцы ў 1944 і 1945 г.г. разам з савецкай арміяй прымалі ўдзел у разгроме гітлераўскай Германіі, паклалі свае галовы ў Прусіі, Польшчы, Чэхіі, Нямеччыне. А тыя, хто вярнуўся з фронту дамоў і хто тут заставаўся, на жаль, былі рэпрэсіраваны і загінулі ў сталінскіх лагерах. З тых некалькіх тысяч беларускіх юнакоў і дзяўчат, якія прайшлі школу СБМ, у жывых сёння засталіся некалькі дзесяткаў чалавек. Але гэта — шчырыя і адданыя беларусы, сапраўдныя патрыёты сваёй Бацькаўшчыны. На сёння ёсць чаму ў іх павучыцца, асабліва, як трэба любіць Радзіму — сваю Беларусь. Сумнае толькі тое, што дазвол на стварэнне гэтай беларускай патрыятычнай арганізацыі далі нямецкія акупанты. З гэтай прычыны яна заўсёды будзе атаясамлівацца з чужой агентурай, хаця ў адрозненні, напрыклад, ад камсамола не прапагандавала бязмежнай адданасці акупацыйным уладам.

**Сяргей Чыгрын,**
**Слонім**

# ЯРМАЛКОВІЧЫ

Спадарыню Аўгінню Ярмалковіч упершыню спаткаў я ў чэрвені г.г., калі разам з сынам Андрэем наведалі рэдакцыю „Нівы". Прозвішча Ярмалковіча Віктара вядомае мне было з успамінаў Янкі Жамойціна, публікаваных у „Ніве" (н-р 50, 1989 г.) і ў „Беларусе" (н-р 367), а таксама як аўтара артыкула ў каталіцкім штомесячніку „Więź" (н-р 11, 1988 г.) пра Беларускую хрысціянскую дэмакратыю. Змест артыкула і прозвішча аўтара запамяталіся мне таму, што быў ён вельмі арыгінальны ў польскім друку. Палякі пра беларусаў пісалі зусім інакш, таму менавіта і рэдакцыя „Więzi" змясціла паметку, што яе меркаванні не супадаюць з поглядамі аўтара. Я не ведаў тады, што калі гэты артыкул паказаўся ў друку, яго аўтара ўжо не было ў жывых. Памёр Віктар Ярмалковіч 15 снежня 1987 г. Два гады пасля ягонай смерці Янка Жамойцін у сваіх успамінах аб Віктару Ярмалковічу ахарактарызаваў яго як віленскага беларускага інтэлігента сялянскага паходжання, дзеяча студэнцкага руху і публіцыста. За грамадскую дзейнасць і публіцыстыку быў ён арыштаваны санацыйнымі ўладамі і зняволены ў канцлагеры Картуз-Бяроза. Падчас нямецкай акупацыі быў сведкам вынішчэння акаўцамі беларускай інтэлігенцыі на Лідчыне. У 1944 г., уцякаючы перад бальшавіцкім тэрорам, разам з жонкай Аўгінняй трапіў у Біскупец, што на Мазурскім паазер'і. У 1949 г. былі яны арыштаваны савецкамі і, хаця не даказалі ім ніякага парушэння законаў, да 1956 г. прайшлі пекла сібірскай ссылкі і канцлагернага жыцця. У 1956 г. Віктар і Аўгіння Ярмалковічы былі прызнаны невінаватымі. Разам з сынам Аляксандрам выехалі тады ў Біскупец.

Ярмалковічы, хаця і жылі сярод палякаў, выхавалі сваіх сыноў на беларусаў. Андрэй, які разам са спадарыняй Аўгінняй наведаў рэдакцыю, цэлае жыццё правёў на Мазурах, але гаварыў па-беларуску так, як быццам бы ніколі не карыстаўся іншай мовай. А ён жа нарадзіўся і вырастаў у польскім асяроддзі. Калі я неасцярожна заўважыў, што спадарыня Ярмалковіч, як чалавек, які пражывае выключна сярод палякаў, вельмі добра валодае роднай мовай, яна адказала: „Я ж закончыла Беларускую віленскую гімназію". Сапраўды, выпускнікі тае гімназіі, нягледзячы куды кінуў іх лёс — у Амерыку, Аўстралію, Нямеччыну, Польшчу, Расію — заўсёды заставаліся вернымі сынамі беларускай сям'і. Нам, беларусам Беласточчыны, сёння нават цяжка паверыць, што была такая беларуская школа.

Віктар Ярмалковіч, які ў Біскупцы працаваў зубным тэхнікам, у свабодны час займаўся даследаваннем гісторыі свайго народа і сваёй зямлі. „Усё свядомае жыццё, — пісаў пра Ярмалковіча Янка Жамойцін („Ніва", н-р 50, 1989 г.), — быў у цэнтры беларускага грамадскага руху, быў сведкам і ўдзельнікам нацыянальнага, культурнага і эканамічнага змагання. Быў сведкам і ахвярай нялюдскіх варожых распраў са змагарамі за сваю беларускую тоеснасць і з іх сімпатыкамі. Рупліва рэгістраваў вядомыя яму з асабістых назіранняў падзеі і збіраў інфармацыі гістарычнага значэння. Аналізаваў вядомыя яму факты і здарэнні. Сабраў неацэненыя матэрыялы, што змогуць запоўніць белыя плямы гісторыі беларускага народа (...). Страта іх была б вялікай шкодай для беларускай гістарыяграфіі".

Матэрыял, які сабраў Віктар Ярмалковіч, сапраўды мае неацэненую вартасць. Апрача ўспамінаў, пакінуў ён яшчэ каля дзесятка гістарычных распрацовак, у тым ліку „Гісторыю Беларусі да I сусветнай вайны". Дзякуючы сям'і, а асабліва спадарыні Аўгінні, плён працы Віктара Ярмалковіча не прапаў. У найбліжэйшых месяцах яго ўспаміны павінны паказацца ў „Ніве", артыкулы ў „Сшытках Беларускага гістарычнага таварыства", а „Гісторыю Беларусі" варта выдаць — калі б былі на гэта грошы — як дапаможнік для студэнтаў і вучняў беларускіх школ. Хаця артыкулы Ярмалковіча напісаны гісторыкам-аматарам і з метадалагічнага пункту гледжання можна ставіць ім усялякія закіды, то іх змест розніцца ад савецкіх распрацовак адсутнасцю нахабнай хлусні і ідэалагічнай дэмагогіі. Чорнае там называецца чорным, а белае белым.

Віктар Ярмалковіч не пісаў ні для грошай, ні для славы. Пісаў праўду, што, як вядома, вельмі цяжкая робіцца, а яшчэ цяжэй такое апублікаваць. Ведаў ён аднак цану праўды, бо за яе прабываў у польскіх і савецкіх канцлагерах, хаця ніводзін суд не даказаў яму ніякага парушэння законаў. Астаўся верным сваім ідэям, сваёй нацыі, сваёй бацькаўшчыне. Быў чалавекам, а гэтага было дастаткова, каб прызнаць яго вінаватым, каб яго праследаваць. Гісторыя так пакіравала лёсам нашага народа, што нацыянальная ідэя доўгімі гадамі толькі тлее ў душах сумленных людзей і пры спрыяльных умовах час ад часу паказваецца полымя, але не аж так вялікае, каб ахапіць увесь народ. Тое, што яна яшчэ жыве, дзеецца дзякуючы такім працавітым людзям, як Віктар Ярмалковіч, якія мелі выразна акрэсленую жыццёвую мэту — застацца людзьмі, а гэта значыць — не ўцякаць перад сабою, не затаптаць свайго сумлення.

„Людзьмі звацца" — гэта шмат абазначае.

**Яўген Мірановіч**

# Беларускае школьніцтва і алімпіядная каніцель

*Працяг са стар. 1*

пачатковых, прычым нават і ў іх вывучаюць беларускую мову далёка не ўсе беларусы. Адным словам, і колькасць школ з беларускай мовай навучання, і колькасць беларускіх класаў, і колькасць навучэнцаў сістэматычна паніжаюцца ў нас. І гэта ў той час, калі паявіліся больш спрыяльныя ўмовы для нацыянальнага школьніцтва. З іх хуценька скарысталі ўсе нацыянальныя меншасці. Апрача, канешне, нас, беларусаў.

Чаму і па чыёй віне так дзеецца ў нас?! Канешне ж, па нашай і толькі па нашай віне. Трэба тут адкрыта сказаць: мы, а ў асноўным лідэры нашы, не надта рвемся да роднага школьніцтва і не надта ўмеем арганізаваць і развіваць яго, а хваліцца любім. Калі іншыя нацыянальныя меншасці аж рвуцца адкрываць новыя класы з навучаннем роднай мовы, новыя школы, пачынаюць выкладаць іншыя прадметы на роднай мове, мы трацім час і энергію на арганізацыю алімпіяды, у якой маюць права браць удзел толькі вучні двух ліцэяў. І вынік такі: іншыя не маюць алімпіяды, але маюць даволі стройнае нацыянальнае школьніцтва, а мы маем аж дзве беларускія алімпіяды і мізэрненькае беларускае школьніцтва. Што лепшае?

А цяпер наконт самой алімпіяды. Ці так ужо прычыніцца яна да ўмацавання і пашырэння беларускага школьніцтва ў нас і падніме прэстыжнасць беларускай мовы, як у адзін дух патэтычна сцвярджаюць арганізатары і прыхільнікі яе? Паводле рэгламенту: „Удзельнікамі алімпіяды можа быць моладзь сярэдніх школ, у якіх навучаецца беларуская мова" — значыць толькі нашых двух ліцэяў. Ці ж так важнае і дарагое агульнадзяржаўнае мерапрыемства можна замыкаць у так вузенькія рамкі?! Была ж між намі дамоўленасць, што гэтая алімпіяда мае быць даступная для вучняў усіх сярэдніх школ, а яшчэ лепей для ўсіх ахвотных. Апрача, канешне, студэнтаў беларускіх філалогій. Падобна ж аж рвуцца да вывучання беларускай мовы і вучні беластоцкіх, і іншых сярэдніх школ, толькі перашкаджаюць ім неспрыяльныя ўмовы ў іх школах. Вось дзе была б добрая нагода павучыцца дома ці на нейкіх курсах і прыступіць да аліпміяды. А чаму б не прыступіць да яе і тым, якія думаюць паступаць без экзаменаў у вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі. Трэба ж чымсьці і ім вылучыцца. Канешне ж, ніхто ад іх не патрабаваў бы многа. Алімпіяда складаецца з трох этапаў. Няхай яны зарэкамендуюць сябе хаця б пэўнымі ведамі на ўзроўні першага этапа, які па сутнасці з'яўляецца толькі элімінацыяй да сапраўднай алімпіяды, і атрымаюць ад аўтарытэтнай камісіі адпаведнае пасведчанне. Укладаць пытанні і праводзіць алімпіяду будуць нашыя людзі, значыць і прыхільнікі нашай справы.

Тым, хто пакажацца веданнем справы і дойдзе, напрыклад, да трэцяга этапа, можна адразу выдаць пасведчанне раўнапраўнае здадзенай матуры па беларускай мове ці штосьці падобнае, не гаворачы ўжо пра пераможцаў.

Канешне, была б гэта алімпіяда нетыповая, але ці ж нашае школьніцтва і наша сітуацыя тыповыя? Нам як найхутчэй трэба шукаць дарог выхаду з нашай цяжкай сітуацыі. Менавіта гэтая дарога, думаю, магла б быць адной з іх. Калі мы ў чытальніцкіх і дэкламатарскіх конкурсах дазволілі прымаць удзел не толькі вучням нашых беларускіх ліцэяў, але ўсім, хто толькі хоча, яны толькі выйгралі на гэтым — сталі больш масавымі і больш цікавымі. Помніцца мне, як з выдатным поспехам у чытальніцкім конкурсе браў удзел усім нам вядомы Мікалай Панфілюк, у дэкламатарскім конкурсе (таксама з выдатным поспехам) Аўрора і Ян Мордань са сваёй групай. Усе яны не былі ў той час вучнямі, а дарослымі людзьмі. Думаю, найшліся б ахвотныя і да алімпіяды.

Ці да канца я перакананы ў слушнасці сваіх прапаноў? Канешне, не. Але ў тое, што гэтая куртаценькая алімпіяда аж так мае направіць сітуацыю на нашым нацыянальным палетку, як аб гэтым пераконваюць арганізатары і прыхільнікі алімпіяды, то напэўна не веру. Лічу таксама, што няма сэнсу арганізаваць алімпіяду толькі для двух школ. Тым больш, што нашыя два ліцэі маюць ужо алімпіяду.

Ужо будзе гадоў пяць, як з бельскага і гайнаўскага белліцэяў рэгулярна штогод запрашаюцца па тры—чатыры вучні з кожнага на Агульнарэспубліканскую алімпіяду беларускай мовы ў Рэспубліку Беларусь. Нашы вучні ўдзельнічаюць у ёй, і, трэба пахваліцца, з неблагімі вынікамі. З нашага гайнаўскага ліцэя, напрыклад, тры гады таму вучаніца заняла трэцяе месца, а ў мінулым і гэтым годзе — другія месцы. Ці ж гэтага вам яшчэ мала? Я не ведаю ці ва ўсёй Беларусі знойдзецца многа такіх школ, вучні якіх тры гады запар займалі б такія прэстыжныя месцы. Толькі за адно гэта нас варта хваліць і хваліць, а нас дзяўбуць і дзяўбуць. Пры нагодзе, без нагоды і каму не лень. І дзяўбіце на здароўе. Караван — як кажуць — і так далей ідзе.

Ва ўсёй гэтай алімпіяднай валынцы найзабаўнейшым з'яўляецца аднак тое, што нашая адсутнасць у алімпіядзе прывяла ў абурэнне і гнеў сярдзіты таксама беластоцкіх нашых актывістаў і дзеячаў.

З аднаго боку гэта нібыта і міла, што так балюча клапоцяцца яны пра беларускае школьніцтва, а, з другога боку, іх бацькоўскі клопат выглядае так дзіўным, што аж хочацца крыкнуць: „Беластачане, вашу маць, калі вам такое дарагое беларускае школьніцтва, чаму ж вы не арганізуеце яго ў сябе?!" Арганізаванне такога школьніцтва надзвычай простае цяпер. Ад вас патрабуецца толькі адно: паслаць на заняткі сваіх дзяцей і ўнукаў. За вамі пашлюць напэўна менш свядомыя беларусы... і беларускія школкі стануць у Беластоку як міленькія. А гэта для прэстыжнасці беларускай мовы, беларускага школьніцтва і ўсёй нашай меншасці куды важнейшае ад другой алімпіяды для двух беларускіх ліцэяў. Калі ж у напрамку беларускага школьніцтва вы самі і пальцам не кіўнулі, дык не бярыцеся павучаць тых, хто праз усё сваё працоўнае жыццё бесперапынна ківае ўсімі сваімі пальцамі ў гэтым напрамку.

Ужо ад сівой старажытнасці вядомая простая і разумная ісціна: трэба спачатку даць прыклад самому, а ўжо потым патрабаваць ад іншых. А ў Святым Пісанні гаворыцца, што вера наша, без добрых учынкаў — мёртвая.

На канец хачу сам сабе паставіць пытанне: ці я маю маральнае права так аўтарытэтна выказвацца на тэму беларускага школьніцтва? Можа і не маю. Але ўсё ж такі 32 гады, на працягу якіх я ўласным потам арашаю нашу беларускую педагагічную ніву, таксама штосьці вартыя. І хаця не ўсё мне ў гэтым арашэнні ўдавалася і ўдаецца, але поту ніколі не шкадаваў і не пашкадую.

Настаўніцкая праца і цяжкая, і адказная, і малаплатная, а праца настаўніка беларускай мовы яшчэ і няўдзячная, як бачыце. Нават сціплай педагагічнай кар'еры на ёй не зробіш. Колькі б не стараўся, заўсёды чагосьці не даробіш і камусьці не дагодзіш. Аднаму дай любіцеляў і спецыялістаў па беларускай мове і літаратуры, другому — дэкламатараў, трэцяму — спевакоў, чацвёртаму — беларускіх дзяўчат, пятаму — беларускіх патрыётаў, шостаму — любіцеляў і знаўцаў яго творчасці і ярых пакупнікоў усіх яго зборнікаў, сёмаму — алімпійцаў усіх беларускіх алімпіяд, восьмаму, дзявятаму, дзесятаму... Божа мой, проста канца няма патрабаванням, а ты адзін як палец, і дапамогі не чакай.

Увесь гэты доўгі час я працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў Гайнаўскім беларускім ліцэі. Умовы працы ў нашым ліцэі былі надзвычай цяжкія. Матэрыяльная база прадмета — спачатку нулявая, потым мізэрная. Школьны будынак — старэнькі барак з салідным грыбом і бесперапыннымі рамонтамі. Быў такі час, што вучыліся аж у пяці будынках. Адным словам, наш школьны будынак дзесяцігоддзямі быў найгоршым у ваяводстве, калі не ў цэлай краіне.

Да ўсяго гэтага безупынная агітацыя супраць беларускага сярэдняга школьніцтва. Страшылі, напрыклад, што выпускнікоў такой школы нідзе не прымуць. І гэтак далей, і таму падобнае... А па-суседску з намі красаваўся новы, вялікі, шыкарны будынак польскага ліцэя.

І ўсё ж такі мы не селі на мель. Вывелі сваю скрыпучую школьную лайбу праз усе рыфы, буры і штормы на шырокія воды. Буду канчаць сваю педагагічную дзейнасць у цудоўным школьным архітэктурным ансамблі. Ён і новы, і вялікі, і прыгожы, і функцыянальны. Калі ў старым нашым школьным будынку вучылася толькі па два паралельныя класы, дык цяпер вучыцца па чатыры і пяць.

У гэтым магутным дасягненні Гайнаўскага беларускага ліцэя, думаю, ёсць часцінка і маёй заслугі. І гэта мяне радуе.

**Васіль Сакоўскі**

# З МІНУЛЫХ ДЗЁН

*(працяг; пачатак у 21 н-ры)*

## Трывожнае лета

Канікулы 1939 года правёў я з бацькамі на вёсцы. Старэйшых братоў не было з намі: Япэп легкадумна падаўся ў БССР, Янку змабілізавалі ў войска, а Павел ужо год жыў у Латвіі. З бацькамі на гаспадарцы застаўся я — трынаццацігадовы хлапчук — і адзінаццацігадовы брат Яўген.

У другой палове жніўня пайшлі арышты беларускіх сялян. У Кучкунах пасадзілі восем чалавек: трое з іх (Уладзіміра Мяжынскага, Івана Дразда і Марыю Дрозд) накіравалі ў канцэнтрацыйны лагер у Картуз-Бярозе, астатніх пяць чалавек (Кастуся Мяжынскага, Ягора Пячко, Язэпа Шпакоўскага, Мікалая Дразда і Ігната Цвірку) саслалі ў ваколіцу Сарнаў на Валыні.

На падставе мабілізацыйнага распараджэння майго бацьку накіравалі на ахову дзяржаўнай мяжы. Два разы ў тыдзень прыходзілася яму разам з пагранічнікамі з КОП патруляваць (без зброі) участак мяжы. У апошнія дні жніўня радыё і газеты паведамілі, што змабілізаваныя жаўнеры ды іншыя асобы беларускай і ўкраінскай нацыянальнасцей могуць свабодна пісаць лісты на роднай мове і карыстацца ёю падчас тэлефонных размоваў.

1 верасня пачалася вайна. Наша школа не пачала заняткаў, бо будынак школы сталі рыхтаваць на шпіталь для раненых салдат. Пры канцы першага тыдня вайны да вёскі пачаў даходзіць гарматні гул. Па радыё паведамлялі, што нямецкія войскі набліжаюцца да межаў Варшавы. Але гэты гул не быў ад Варшавы. Старэйшыя людзі гаварылі, што гэта немцы бамбардзіруюць Баранавічы і Брэст.

З 15 верасня 1939 г. з-за дзяржаўнай мяжы даходзіла гудзенне машын, якое працягвалася з раніцы да вечара. Людзі тлумачылі, што гэта ў калгасах трактары аруць зямлю і сеюць збожжа. Такое ж гудзенне адчувалася год раней, калі Польшча захапіла Заользе. Ноччу з 14 на 15 верасня бацька быў на патруляванні граніцы, але нічога цікавага не прыкмеціў. Здавалася яму, што на савецкім баку было ціха і спакойна.

У нядзелю, 17 верасня 1939 г. а 4 гадзіне раніцы, на ўсёй дзяржаўнай мяжы ў ваколіцах станцыі Коласава ды вёскі Засулле рантоўна ўспыхнула артылерыйская ды кулямётная стральба. Працягвалася яна больш за паўгадзіны. Потым надляцелі самалёты, з якіх частка павярнулася назад на ўсход.

Каля 5 гадзіны чатырох польскіх жаўнераў узялі ў Антона Шалькевіча фурманку з канём і, астрэльваючыся, уцякалі ў напрамку Стоўбцаў. Неўзабаве пасля іх ад'езду на палях і дарогах з'явіліся іншыя салдаты на конях — чырвонаармейцы. За вёскаю, побач Яблынаўкі, дайшло да кароткай перастрэлкі, у выніку якой адзін савет быў забіты, а другі — паранены. Каля сёмай гадзіны два польскія самалёты скінулі чатыры бомбы на чыгуначны і дарожны масты на Нёмане. Аднак масты засталіся непашкоджанымі.

*(працяг будзе)*

**Юстын Пракаповіч**

# З нагоды юбілею

За 50 гадоў існавання Ліцэя выяўленчага мастацтва ў Супраслі выйшла паўтары тысячы выпускнікоў. Самым вядомым у свеце абітурыентам з'яўляецца Лявон Тарасэвіч. З нагоды юбілею беластоцкая галерэя „Арсенал" наладзіла цікавы вернісаж прац колішніх вучняў ліцэя.

Лявон Тарасэвіч, як адзін, паказаў сваю „школьную" творчасць — першыя рысункі вяскоўцаў, сям'і, сяброў, дзяўчат. Побач змясціў пісьмовую экзаменацыйную працу па матэматыцы і дыпломную работу. Настрой выстаўкі папаўняе тыповы інтэр'ер вясковай хаты — столік, версалька з трыма сурвэткамі, шлюбны партрэт бацькоў. Цэласць прэзентацыі перадавала клімат 70-х гадоў — школьных гадоў мастака. Дарэчы, такая была ідэя юбілейнага вернісажу.

У „Арсенале" свае працы паказвалі і іншыя выпускнікі: Дарота Грынчэль, Ян Дэбіс, Ежы Зінкоў, Веслаў Юркоўскі, Ян Грыка, Станіслаў Анджаеўскі, Малгажата Нядзелька, Ежы Паўлючук, Кшыштоф Гансоўскі, Веслаў Валкуцкі. Многія працы можна таксама пабачыць у кафэ „Маршанд", „Брама" і ў Лялечным тэатры.

**Г. К.**

# Зорка
## старонка для дзяцей


*Аня Хадакоўская — лаўрэатка (I месца) цэнтральнага дэкламатарскага конкурсу "Роднае слова".*


*Айцец Яўген Хадакоўскі са сваімі вучнямі.*

## Развітанне са школай


*Самы радасны дзень у школьным годзе.*

— Які дзень на працягу школьнага года найбольш любіце? — папыталася я ў вясёлых хлапчукоў са свежымі букетамі кветак.

— Канец школьнага года, — заявілі ўсе радасна і згодна.

— А мне тата абяцаў новы ровар за ацэнкі, — горда заявіў выдатнік.

— Я паеду адпачываць у горад, — хваліўся другі.

— А я..., бо не трэба ўрэшце хадзіць у школу, — дабавіў іншы хлапчук.

У гэты вясёлы дзень „Зорка" гасцявала ў Ягуштове, што каля Бельска-Падляшскага. Школа тут вялікая і прыгожая. Вучыцца ў ёй 120 дзяцей з Катлоў, Белай, Гароднік, Парцава, Стрыкоў, Галадоў, Грыневіч-Вялікіх, Суботкі і Ягуштова. Многія вучні ведаюць „Зорку", бо чытаюць яе на ўроках беларускай мовы. Гэты прадмет выкладае тут матушка Ірэна Хадакоўская.

* * *

Урачыстае заканчэнне школьнага года пачалося з багаслужбы.

— У нас такая ўжо традыцыя, — сказаў настаяцель прыхода айцец Яўген Хадакоўскі, — што школьны год пачынаем і канчаем малебнам.

Незвычайна выглядала ў гэты дзень царкоўная ўрачыстасць. Перш за ўсё таму, што ўсе дзеці шчыра маліліся. На дадатак было іх так многа, што запоўнілі ўсю царкву. Святар па-бацькоўску перасцерагаў сваіх вучняў (айцец Яўген — настаўнік праваслаўнай рэлігіі ў Ягуштове), каб у час канікул не хадзілі самі купацца, зважалі на дарогах і памагалі бацькам.

* * *

— У гэтым годзе ўсе вучні перайшлі ў наступны клас, — гаворыць дырэктар школы Валянцін Гліва. — Праўда, пяць вучняў перайшлі „умоўна", а гэта значыць, што ў верасні прыйдзецца ім здаваць экзамены па тых прадметах, з якіх атрымалі адзінкі. Толькі раз на восем гадоў здараецца магчымасць „умоўнага" перавядзення ў наступны клас.

Некалькі дзён таму назад школа развіталася з васьмікласнікамі. Адзінаццаць выпускнікоў будуць здаваць экзамены ў сярэднія школы. На іх месца прыйдуць першакласнікі. На жаль, іх толькі ўсяго пяцёра.

* * *

У школе шмат выдатных вучняў. Самым бліскучым дасягненнем з'яўляецца перамога ў цэнтральным дэкламатарскім конкурсе „Роднае слова". Лаўрэатам яго стала вучаніца VI класа Аня Хадакоўская. Аня Навумчук удзельнічала ў ваяводскім дэкламатарскім конкурсе „Strofy o Ojczyźnie". Вучні з Ягуштова не толькі выдатна дэкламуюць паэзію, але і малююць. Міраслава Казак і Моніка Сідарук за ўдзел у ваяводскім пластычным конкурсе атрымалі вылучэнне. У школе на сцяне вісяць дыпломы дзяўчат з подпісам Вальдэмара Пауляка. Тады прэм'ер быў ганаровым членам журы конкурсу па пажарніцкіх ведах.

Найбольш аднак у школе энтузіястаў спорту. У гэтым немалая заслуга настаўніка фізкультуры Міраслава Хаманюка. Ягоныя вучні: Тамаш і Марцін Янушэўскія (браты родам з Суботкі) заваявалі першае месца ў ваяводскім лёгкаатлетычным турніры. Той жа Тамаш Янушэўскі і Тамаш Ясвіловіч заваявалі таксама IV месца ў ваяводстве ў настольным тэнісе. Таленавітых спартсменаў з Ягуштова можна было б пералічваць яшчэ доўга.

* * *

Амаль уся мастацкая частка была на беларускай мове. Здавалася, што падрыхтавалі яе спецыяльна для „Зоркі". Вучні прыгожа дэкламавалі вершы. Выступіла таксама Аня Хадакоўская.

Вялікім гонарам для мяне было ўручэнне ўзнагарод дзецям за пашану і любоў да роднай мовы.

На заканчэнне дзеці падарылі мне і майму сябру Міколе Ваўранюку кветкі і запрашалі наведваць іхнюю школу. Мае новыя сябры з Ягуштова паабяцалі пісаць у нашую дзіцячую старонку. Ужо цяпер перадалі яны мне свае малюнкі і вершы, якія ўпрыгожаць нашу „Зорку".

**Ганна Кандрацюк**
**Фота Міколы Ваўранюка**


*Уся мастацкая частка была на беларускай мове. Першая злева: настаўніца Ірэна Хадакоўская.*


*Дырэктар Валянцін Гліва ўручаў пасведчанні з чырвонай палоскай.*

# Вершалінскім шляхам

Рэйд „Вершалінскім шляхам" арганізавалі ліцэісты з Беластока. Адбыўся ён 16, 17 і 18 чэрвеня г.г. Трэба было перайсці звыш трыццаці кіламетраў, ад Крынак праз Грыбоўшчыну, Вершалін, у Валілы. Сярод вандроўнікаў найбольш было ліцэістаў з Бельска-Падляшскага.

— У Грыбоўшчыну і раней прыходзілі жыхары Бельшчыны, — даказвалі мясцовыя, спачатку папытаўшыся хто мы і адкуль родам.

Многія ўдзельнікі маршрута перш як рушылі ў дарогу, прачыталі кніжку Аляксея Карпюка „Вершалінскі рай". Іншыя аглядалі тэлеспектакль Тадэуша Слабадзянка „Прарок Ільля". Зразумела, што некаторыя ўпершыню пазнаёміліся з гэтай найбольш фантастычнай тэмай Беласточчыны.



Пра Клімовіча, ягоную секту ільіннікаў, Вершалін расказваў Сакрат Яновіч.

— Крынкаўская зямля заўсёды радзіла дзівакоў, вар'ятаў і прарокаў, — гаварыў Яновіч.

Вогнішча было яркае і гарачае. Апрача „вершалінскай" тэмы мы спазналі крынкаўскую „талерантнасць". Канфлікт з мясцовай моладдзю пачаўся з-за беларускіх песень. Падхмеленыя маладзёны хацелі разагнаць нашае вогнішча.

— PZW, — махнуў адзін з іх нейкім дакументам, на манер працаўніка тайнай службы.

— Sto metrów od wody nie wolno palić ogniska, — заявіў нам крынкаўскі ахоўнік цішыні. Як пазней сам заявіў, змагаўся ён ад імені Polskiego Związku Wędkarskiego.

Гэта, наадварот, нас толькі падбадзёрыла, песні таксама набралі сілы. Пры нагодзе варта ўспомніць здарэнне з падарожжа. У той самы дзень таўсташчокі шафёр (на трасе Беласток—Крынкі) штораз збіраўся нас выкідаць з аўтобуса з-за „рускіх песень". Дзядзька так узбурыўся, што замест глядзець на дарогу, безупынна пагрозліва аглядаўся і паўтараў: „To nie autobus turystyczny". Паводле яго нашыя песні перашкаджалі пасажырам.



— Не, не, вы нам не мяшаеце, — шапталі тыя ж пасажыры і са страхам глядзелі, каб гэтага не пачуў шафёр. Дзіўная справа, заспявалі мы толькі адну песню, а ўсю дарогу за гэта цярпелі.

Былі і такія, што плакалі, пачуўшы мілагучныя напевы.

— Нашыя прыехалі, праваслаўныя, — шапталі старэнькія жыхары Крынак.

Дзякуючы гэтым здарэнням, у нашай групе панаваў вясёлы, бадзёры і згодны настрой. На дадатак штораз узнікалі новыя фантастычныя з'явы. Па дарозе мы не раз зведвалі цуды. Пра адзін з іх нагадаю.

Наш сябра, родам з Шудзялава, абяцаў весці ўвесь рэйд. Знаю там кожную сцяжынку, гаварыў ён. Кончылася тым, што ён зусім на рэйд не прыехаў. А мы на адзінаццатую гадзіну дамовіліся са святаром у Грыбоўшчыне. Паспець аднак на гэты час здавалася немагчымым. Раптам, зусім выпадкова, павярнулі мы ў лясную дарожку і праз пяць хвілін апынуліся пры царкве. Было роўна адзінаццаць. Не дарма гавораць у наваколлі Крынак, што царква сама выйшла з зямлі.

— Клімовіч меў у пэўным сэнсе рацыю, калі гаварыў пра канец свету, — тлумачыў нам Сакрат Яновіч. — Грыбоўшчына, Пілатоўшчына, Гураны амаль пустыя, памёршыя вёскі. Наваколле зарастае лесам.

Настаяцель прыхода, айцец Аляксандр Клімюк, не мог успомніць калі апошні раз хрысцілі тут дзіця.

І надвор'е ўвесь час нам спрыяла. Далёка яшчэ да вечара дайшлі мы ў Валілы. Там сустрэў нас Лявон Тарасэвіч. Дадатковым атракцыёнам рэйду было і тое, што госць Тарасэвіча, шведскі мастак Роберт Сот, амаль увесь вечар вёў лёгкую і цікавую гутарку. Вечар прайшоў на разважаннях пра мастацтва. Штораз успыхалі песні. Ведаючы іх цану, ліцэісты спявалі яшчэ прыгажэй і старанней.

— Надта ж элегантна, — паўтараў безупынна адзін удзельнік рэйду.

**Ганна Кандрацюк**
**Фота Андрэя Саковіча**



# Купалле

Усіх паклоннікаў „Купалля" запрашаем у Студзіводы, што каля Бельска-Падляшскага. У праграме не толькі „дзявочыя вянкі", але і выступленне маладзёжнай фальклорнай групы „Чарамшына", вогнішча, супольныя танцы. Мерапрыемства адбудзецца 6 ліпеня (чацвер). Пачатак у 9 гадзін вечара.

Арганізатары — бельская моладзь — сардэчна ўсіх запрашаюць.

А ў сувязі з гэтым, што такія мерапрыемствы не абыходзяцца без спеваў, удзельнікам купальскіх святкаванняў прапануем тры песні, якія спяваліся ў народзе ў гэтую цудоўную, непаўторную ноч.

## РЭЧАНЬКА



Ой, рэчанька, рэчанька,
Чаму ж ты не поўная?
Люлі, люлі, люлі,
Чаму ж ты не поўная?

Чаму ж ты не поўная,
З беражком не роўная?
Люлі, люлі, люлі,
З беражком не роўная?

А як жа мне поўнай быць,
З беражкамі роўнай плыць?
Люлі, люлі, люлі,
З беражкамі роўнай плыць?

Янка коніка паіў,
Маня воду чэрпала.
Люлі, люлі, люлі,
Маня воду чэрпала.

## ТУМАН ЯРАМ



Туман ярам, ярам-даліною,
Туман ярам, ярам-даліною.

За туманам нічога не відна,
Толькі відна дуба зелянога.

Пад тым дубам крыніца стаяла,
Там дзяўчына воду набірала.

Ды ўтапіла залато вядзерца,
Засмуціла казакова сэрца.

— А хто ж тое вядзерца дастане,
Той са мною на ручніку стане.

— Хлопец тое вядзерца дастане,
Ён з табою на ручніку стане.

## КУПАЛІНКА



Купалінка, купалінка,
Цёмная ночка,
Цёмная ночка,
Дзе ж твая дочка?

Мая ночка у садочку
Ружу, ружу поліць,
Ружу, ружу поліць,
Белы ручкі коліць.

Кветачкі рвець, кветачкі рвець,
Вяночкі звівае,
Вяночкі звівае,
Слёзкі пралівае.

# У пошуках фальклору ў Купалле

Над Нараўку то наплывалі цёмныя хмары, то ўцякалі, гоненыя чэрвеньскім цёплым ветрам. Мястэчка паблісквала ў яшчэ нявысахлым ранішнім дажджы. Насупраць касцёла, да якога спяшылі святочна апранутыя каталікі — жыхары Нараўкі і ваколіцы, густа стаялі „адпустовыя" крамкі з цукеркамі і цацкамі — сёння ж Яна! Пасля поўдня народ пачаў збірацца на плошчы за аўтобусным прыпынкам, за помнікам-абеліскам, — там, над рэчкай Нараўкай размясціліся домікі нараўчанскага Асяродка спорту і адпачынку ды дашчатая сцэна, перад якой паставілі лавачкі для гледачоў. На іх і пасядалі, хто прыйшоў першы на мерапрыемства, а за імі сталі тыя, каму месцаў не хапіла, бо сабралася народу шмат. Спаткала я тут сваіх знаёмых з усіх вёсак Нараўчанскай гміны, а нават пару асоб з Беластока, што спецыяльна адтуль сюды прыехалі на такую імпрэзу — **цэнтральны ваяводскі агляд фальклорных калектываў „У пошуках фальклору"**. Арганізатары XXIV прэзентацыяў „У пошуках фальклору" — Ваяводскі асяродак анімацыі культуры ў Беластоку і Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы — сёння паказваюць усё тое, што найлепшае ў той галіне ў ваяводстве, што ўдалося калектывам знайсці і перадаць. Мэтай цыкла „У пошуках фальклору" ад дваццаці пяці гадоў ёсць менавіта не толькі сабраць скарбы культуры, але і перадаць іх наступнікам. На жаль, амаль усе калектывы, выступаючыя на аглядзе, маюць членаў найменш спелага ўзросту, апрача „Чарамшыны" з Чаромхі (выступіла яна амаль тыдзень раней на Свяце беларускай культуры ў Беластоку). Выступалі гурты (35) і салісты з двума песнямі кожны, але арганізатары ўчынілі „паклон у бок маладых", як сказаў адзін з арганізатараў, Юзаф Зыськ, і „Чарамшына" прагучала са сцэны ў пяці песнях: „Ой на полі два дубы", „Голуб на чарэшні", „Квіты з калыны ламала", „Дармо Ясю, ходзіш" і „Чом ты не прыйшоў". Моладзь у гурце сабралася прыгожая — з Гайнаўкі, Бельска, Беластока і Варшавы, а ў Нараўку прыехалі з сябрамі. Вядома, што цярплівую публіку пад дажджом, пераходзячым да імжыкі да сапраўднага ліўня, сагрэлі песні ў выкананні таленавітага і тэмпераментнага калектыву...

Артысты спявалі такія песні, якія выбралі са свайго багатага рэпертуару. Польскія падляшскія гурты — па-польску, нашыя — найчасцей на гаворцы. „Арляне" ці калектыў з Агароднічак заспявалі песні дзве — польскую і „сваю".



*Публіка не падвяла.*



*Арганізатары (ВОАК і Нараўка) сярод нараўчанскіх прыгажунь.*

— Прэзентуем усё тое, што ў нас на Беласточчыне найбольш каштоўнае, — сказаў дырэктар ВОАК Казімеж Дэркоўскі. — Маем гасцей з Чарнагоры з Новай Югаславіі і калектыў „Вяселле" з Ваўкавыска. У фальклорнай сям'і, якая налічвае каля пяцісот асоб, пусцім на прыгожую раку Нараўку вянкі. XXIV сустрэчы гэта вынік 25 гадоў працы некалькіх асоб, якія ад пачатку плануюць, ініцыюючь і рэалізуюць праграму „У пошуках фальклору". У наступным годзе — дваццаціпяцігоддзе, і хочам так запланаваць сустрэчы, каб абрадавыя калектывы прыехалі зноў у Нараўку.

— Гэта не ёсць поўнасцю конкурс, — сказаў Юзаф Зыськ. — Нам за тыя 25 гадоў хацелася, каб уратаваць, дастаць з памяці тое, што найбольш каштоўнае, каб ацаліць тое ад няпамяці, ад забыцця. Кожная гміна Беласточчыны павінна была раней арганізаваць у сябе Свята фальклору (сёлета — 25 мая). Не ўсе гэта зрабілі, але свае рэпрэзентацыі прыслалі ўсе на фінал. У наступным годзе агляды будуць у розных месцах, аддзельна танцавальна-вакальныя, абрадавыя і дзіцячыя. З некаторых гмін маем па 2—3 калектывы. Частка з іх даедзе ў час выступленняў — цяпер даюць канцэрт пенсіянерам з Дому грамадскай апекі ў Ялоўцы. А гэтыя, што выступаюць — вось паглядзіце — касцюмы беларускія, падляшскія, апрацаваныя на падставе музейных збораў найменш з XIX стагоддзя. З гміны ў Крыпне — „Застачанкі", „Длугалэнжанкі", „Крыпнянкі", з Лапаўскай — „Угавянкі", „Лупінянкі", „Шалайдзянкі", з Дабрынеўскай — „Фастынкі", „Абрубкі", з Супрасльскай — „Агароднічкі", з Тыкацінскай — „Гетманкі", „Гаравянкі" з Жукоў, з Чорнай-Беластоцкай — „Рудзене", калектыў з Вулькі-Тэрахоўскай, з Бельскай гміны — „Родына" з Дубяжына, „Арляне" з Арлянскай, з Заблудаўскай — з Крыніцкіх і Козлікаў, „Каліна" з Журобіц з Дзядкавіцкай, Клепачы, „Нарвянкі" з Крушэва, „Каплянкі" з Каплян, калектыў з Меня ў Бранскай (цікавы танец *контра*), Нараўка, Гарадок, „Цаглінкі" з Ляўкова, „Красуні" з Краснага Сяла, „Чарамшына"... Цешыць тое, што ёсць маладыя. Пераказваючых адкрыты фальклор многа, але тых, хто бярэ беражліва ў свае рукі спадчыну — не так і шмат.

Пасля конкурсу — выступленне гасцей. А каля поўначы — пачнецца Купалле. Калектывы з вянкамі і вяночкамі зойдуць над Нараўку і паплывуць песні купальскія на розных мовах, цёмная вада панясе кветкі з агеньчыкамі свечак. А потым — супольнае гулянне ля вогнішча з жыхарамі... Можа знайшоў хто-небудзь, апрача народнай песні, і папараць-кветку.

**Міра Лукша**
**Фота аўтара**



*БАРЫС РУСКО*

## Без перамен

Ад позірку вачэй кроплі дажджу
падаюць градам.
Летняя раніца лізнула вулку
і ў п'янай думцы згасла.
Вакол восі вірують перакошаныя
вусны хат,
а сабака з падагнутым хвастом
цікуе між зубамі.
Жалезабетонныя сцены лопаюць
двухбакова,
і лёгкія — у кропкі,
як крылы божай кароўкі.
Кажуць, было лепш...
Дык чаму ў альбоме
фота дваццаціґадовага шкілета?

## У пачакальні

Хоць сонца свечкай свеціць у вочы
і на пляжы бранзавеюць павекі,
мне зябка ад скразнякоў жыцця.
Шукаю вобмацкам пуховае
покрыва сну.

## Май

Скронь зямлі аперазала стужка
кветак,
тэмбрамі напеваў птушыных
поўніцца лес,
у шолаху лістоў сонцам гараць
блакітныя вочы неба,
у кашолцы ўсмешкі чалавек
нясе май.
І ў мяккім павеве вясны
прарастае зерне надзеі.
А радасць у бальным плацці,
і хочацца жыць,
і танцаваць —
аж да апошняй кроплі расы
на шчоках ландыша.

## У альсе

Навокал гразка, у каленях боль,
а матылі ўцякаюць у чарот.
У маіх далонях, паміж каранямі
дрэў, ласкавая завадзь.
Тут кожны дотык набухне
ад кведені,
бяздомны вецер прыкрые
калдобіны,
каб схаваць ад вачэй
перакос твару вываратня.

## У квітненні

Увайсці ў абуджанае дрэва,
у тайны перашэпт жыцця,
у дрыготкі, прагавіты пал,
і бачыць модлы крылаў у скоках,
і паглынаць трывогу шансу,
і над калыскаю стаяць зачацця
здолее толькі носьбіт сэрца.

## Неадназначнасць

Як прысутны,
датыкаюся да маўклівай птушкі,
што на мокрай ветцы канаючага
дрэва.
Як непрысутны,
гуляю з вясёлай птушкай
на блакітнай алеі.
Як назіральнік крайнасцяў,
трымаю люстра перад сабою
і птушкай.

## Над адкрытым лугам

Дакранаюся да жывога лугу,
як да полымя колераў
і свеву крылаў,
і мовы світання,
і вечара,
і дня,
і ночы,
і зноў сонца,
і зноў месяца.
Над гэтым палатном
шчыраваў не абы-які майстар.
Крышыцца ціш на бясконцыя
песні.
Усё існае ў песні,
у шматцветнасці лета.

# З народных песень

Прапаную яшчэ адну песню, за спяванне якой можна было трапіць у Сібір. Але людзі спявалі яе, бо гэта была патрыятычная песня, якая бараніла гонар беларускага народа і свабоду яго правоў.

**Станіслаў Баніслаў Кавэцкі,**
**Катавіцы**

У нядзелю маць старушка
К варатам цюрмы прыйшла,
Яна роднаму сыночку
Перадачу прынясла.

Перадайце перадачу,
Бо ўсе людзі гавараць,
Што ў цюрме арыштаваных
Сільна голадам мараць.

Беларус ёсць мой сыночак,
Беларусам жыў і рос,
А цяпер сядзіць нявінны,
Церпіць голад і мароз.

Вось вартоўнік усміхнуўся
І сказаў ёй у атвет:
„Твой сыночак расстраляны
У цёмнай каменнай цюрме".

Маць старушка пабляднела,
Пахілілася спярша
І нявольнаму надзору
Пакацілася сляза.

Ногі босыя, старыя.
Сорак вёрст пяшком ішла.
Перадачу я купіла
За паследняга граша.

За што ж яго расстралялі?
Ён не вораг, не чужы!
Перадайце хлеб галодным
На ўспамін яго душы.



# 23 гады з кінаперасоўкай

**Расказвае Аляксандр Бяглюк з Нараўкі:**

Нарадзіўся я ў 1923 годзе ў Беглюках і жыў там да вайны. У вайну нашу вёску немцы спалілі, а нас выселілі ў Канюкі. Мой тата, аднак, які ў 1914 годзе папаў у палон, ведаў нямецкую мову і пайшоў да амтскамісара ў Нарву, каб той дазволіў адкрыць у Нарве краму. Амтскамісар дазвол такі даў і тата адкрыў невялічкі магазін у прызначанай яму хаце, у якой да вайны жыў жыд Вадман. А я папаў немцам на вочы і на прадвесні 1944 года яны рашылі вывезці мяне на работу ў Германію. Забралі мяне ў Бельск, пасадзілі ў поезд і павезлі. Не хацелася мне ехаць на чужыну і я вырашыў уцячы разам з Нюркай Бялецкай з Нарвы. Мае сябры Костэк Леанчук і Юзэф Дамброўскі гралі на губным гармоніку, нямецкія стражнікі танцавалі з дзяўчатамі, поезд раптоўна затармазіў, немцы пападалі, я адчыніў дзверы, выпхнуў Нюрку, а потым і сам на хаду выскачыў. Шчасліва асталіся мы цэлымі, ніводнае з нас не патурбавалася. А былі мы яшчэ ў Старасельцах. Пабралі свае валізкі і схаваліся ў вагоне на пабочыне. Прыйшла прыбіральшчыца і мы спыталі яе як выйсці за чыгуначную агароджу. Яна разгланулася: ля фортачкі дзяжурыў яе знаёмы і мы за ёю выйшлі ў Беласток. Пайшлі мы да Пашкі, маёй знаёмай, там прабылі дзень і ноч, а на досвітку падаліся ў Дайліды. Там дагаварыўся я з вазаком, што вугаль вазіў, і ён за 250 марак завёз нас на сваёй платформе ў Заблудаў. Далей, у Нарву, дабраліся мы ўжо пяшком. Нюрка пайшла ў сваю хату, а я пайшоў у татаву краму, улез пад запасны буфет і там праспаў да світання. Заставацца ў Нарве я не мог. Пайшоў у Ляўкова, да Семаковічаў. Адтуль разам з Маняй і Зосяй падаліся мы ў Ваўкавыск, у маёнтак у Петрашоўцы; было там 86 дзяўчат і 14 хлопцаў. Прабыў там ад вясны да сенакосаў. Ішлі саветы і я ўцёк у Бярначчыну — там загатаўляў сена і ў сене спаў. Тата, нібыта едучы ў Нараўку, давозіў мне есці.

Саветы забралі мяне ў польскае войска; у Гайнаўцы, у РКУ, прынялі мяне 14 верасня 1944 года. Лейтэнант Браневіч спытаў, ці я ўмею па-руску чытаць і пісаць. Я адказаў, што так, і ён забраў мяне ў сваю часць. Была гэта хімчасць у Седльцах. Набраў ён некалькі хлопцаў з Бельшчыны, што ўмелі па-руску: Алёшу Чайкоўскага і Сяргея Клышко з Орлі, Яўгена Бервянюка са Шчытоў і другіх. Камандзірам нашым стаў капрал Малец. Ён пасля вайны быў доктарам у Кляшчэлях, памёр нядаўна. Праходзілі мы хімічнае абучэнне ў вёсцы Угувак, што каля Мордаў — пазнавалі палярыны, маскі. Потым быў экзамен — хто здаў, атрымоўваў лычку на пагоны. Потым папрактыкавалі трохі і адправілі нас на фронт, у Варшаву, на Прагу. Нагледалі мы з дахаў за немцамі, ці няма ў іх самаходаў з ядавітымі газамі. Потым пайшлі фронтам на Торунь, Пілу (Шнайдмюле). Пасля нас адвялі і направілі пад Брэслаў (Вроцлаў). Крыху адпачылі і мелі наступаць, але ўбачылі белыя палотнішчы — Брэслаў здаўся. Потым пайшлі на Ротэнбург, Ніскі, Обэрліхтэнаў, Камніц і дайшлі да ракі Нысы. Камандаваў намі Браневіч, а потым Вадзілін. Фарсіравалі Нысу — задымлялі амерыканскімі 6-кілёвымі дымнымі гранатамі. Далей пайшлі на Дрэздэн; 9 км перад горадам папалі ў акружэнне. Скончылася ў нас амуніцыя. Ноччу скінулі з самалётаў на паляну боепрыпасы і харчы. Да світання пайшлі ў наступленне. Потым адыйшлі пад Баўцэн. У маі немцы здаліся.



Пасля вайны кінулі ў Леска, у Бяшчады. Ваявалі з бандэраўцамі. Я быў пешым разведчыкам. Цяжка было, горы, гліна. Бандэраўцы мелі свае тунелі, зашываліся ў засады і па нас аўтаматамі. Мы рассыпаліся, і на іх. Прабыў я там да 28.02.1946 г. — удалося мне „пастарэць" у штабе і звольніцца ў запас.

Вярнуўся ў Нараўку, бо сюды пераехалі бацькі. Вольф Краснянскі прадаваў хату, то паехалі ў Бельск і купілі. Заняўся сельскай гаспадаркай — цяжка было, ні граша. Патрабавалі кінамеханіка, я падаў заяўку. У 1951 годзе паехаў у Вроцлаў на два месяцы вучыцца. Акурат Янэк (пра яго пісала „Ніва" ад 12 сакавіка г.г. - А.В.) нарадзіўся. Справілі хрэсьбіны і паехаў. Прыехаў у сакавіку. Далі кінаапарат, спачатку АР-11 а пасля памяняліі на AP-12U. Фільмы прысылалі па пошце з Беластока або з іншага кіно, а пасля выкарыстання адсылаў я паводле распісання, найчасцей у Орлю або ў Чыжы. Спачатку прысылалі па адным фільме на тыдзень, а пасля два: адзін для дзяцей. Калі фільм быў нецікавы, званілі ў Беласток і прысылалі нам другі. Давалі, бывала, і па тры сеансы ў дзень. Ездзілі з фільмамі ў Навасады, Дубіны, Ласінку, Бярначчыну (там, як будавалі чыгунку, была святліца), Ляўкова, Лешукі, Рыбакі, Семяноўку, Тарнопаль, Луку, Скупава, Буды, Альхоўку, Міклашэва, на станцыю ў Плянце. Народу сходзілася мноства, і пакуль прыедзем, залы былі ўжо набіты людзьмі. Вазілі нас падводамі, спачатку шарваркамі. Ехалі, нягледзячы ні на пару, ні на пагоду. Часамі вяртаемся з Масева, а людзі ўжо каровы выганяюць. І трэба было проста з дарогі ісці касіць, каб з расою. А часамі то і падводы не было. Аднойчы з Семяноўкі вярталіся поездам. Пагрузіліся ў вагон са жвірам, дагаварыліся з машыністамі, што высадзяць нас на станцыі ў Плянце. А дождж ішоў — лівень проста. Я апарат пад сябе ўзяў, каб не прамок. Потым печку палілі і вопратку сушылі. Або аднойчы ў Лешуках не знайшлі начлегу, то асталіся начаваць у школе. Пасля сеанса то яшчэ было цяпло людскім цяплом, а пад раніцу, як выветрала, добра змерзлі. Начлегу шукалі, калі фільм канчаўся а 2-й гадзіне ночы, а да Нараўкі было далёка. Часта асталіся на начлег у Рыбаках, далёка было і людзі там былі вельмі ветлівыя — у дарогу нанач не пускалі. Аднойчы вярталіся падводай з Масева. Была ноч, ішоў дождж. Накрыліся мы брызентам і едзем. Перад Нараўкай ад Гушчэвіны з'язджаем з горкі. Воз на дваццатках, лейцы на руках, конь разбегся.

— Ці не надта хутка едзем? — пытаемся.

— Тпру! Тпру! — на каня.

А дзе там! З ацёсаў толькі іскры. Ацёсы зляцелі, аглоблі вырваліся, лейцы парваліся. Затрымаліся 20 сантыметраў перад цэментовым пограбам. Потым купіў сваю эмку — матацыкл з каляскай. А фільмы былі розныя. Цікавыя глядзеў, а былі такія, што і глядзець не хацелася. Калі пачалі праводзіць электрычнасць, то агрэгат вазілі ўжо толькі туды, дзе яе не было. А як паявіліся тэлевізары то і людзі перасталі прыходзіць на кінасеансы. І я, пасля 23 гадоў працы на кінаперасоўцы, адышоў. Цяжка было: ноччу трэба было абслугоўваць кіно, а ў дзень працаваць у полі.

У 1973 годзе пачалі ў Нараўцы пракладаць водаправод. Пайшоў я на курсы ў Супрасль, адбыў практыку ў Дабрыневе-Вялікім і стаў працаваць на водаправодзе. Напачатак было многа работы: то з-за недагляду манцёраў трубы працякалі, то помпы выходзілі са строю. Вазіў ваду ў Беласток на праверку. Калі было замнога бактэрый, улівалі хлор. Найчасцей вада забруджвалася, як мянялі помпы. А вада ў Нараўцы чыстая, добрая, бярэцца яна ў водаправод з дзвюх студняў глыбінёй у 53 і 54 метры. А ад некалькіх гадоў я ўжо на пенсіі. Дома не сяджу — зямлю пад аблог не пакінеш.

Запісаў
**Аляксандр Вярбіцкі**

# Цэрквы — цэркаўкі



Так называецца выстаўка жывапісу і графікі Багдана Цыраповіча, наладжаная Галоўным праўленнем Грамадска-культурнага таварыства „Pojezierze" ў Ольштыне ў рамках Тыдня хрысціянскай культуры. Аўтар, які цяпер жыве ў Крыжанах каля Рына (Сувальскае ваяводства), нарадзіўся ў 1939 годзе ў Фрэдраполі. На Мазурах апынуўся ў 1947 годзе ў выніку акцыі „Вісла". Закончыў педліцэй, СН і ВСН, а пасля — Факультэт мастацтва Тарунскага універсітэта. Працаваў настаўнікам у пачатковых школах. Належыць да Польскага таварыства пластычнай адукацыі. З'яўляецца таксама турыстычным правадніком. Малюе маслам, акварэлямі, праектуе прасторавыя формы, займаецца металапластыкай. Тэмай яго жывапісу з'яўляюцца нацюрморт, пейзаж, архітэктура — асабліва царкоўная.

— Прыгожая і багатая формамі царкоўная архітэктура супольна з інтэр'ерам: іканастасамі, алтарамі, іконамі, харугвамі, літургічнымі кнігамі і аблачэннямі заслугоўваюць нашай асаблівай увагі, — сказаў аўтар. — Царкоўная архітэктура ўзнікла на памежжы культур Усходу і Захаду і з'яўляецца сінтэзам традыцыйных нацыянальных форм з формамі заходнееўрапейскага барока. Часта была яна вынікам самароднай кемлівасці ў вырашэнні складаных архітэктурных задач.

Экспанаваныя графікі паказваюць цэрквы з Лемкаўшчыны, Гіжыцка (на малюнку) і Грабаркі. Найстарэйшыя з паказаных цэркваў пабудаваны ў XV стагоддзі. Паказаны таксама і цудоўныя капліцкі, якія вызначалі шлях працэсіям.

**Андрэй Гаўрылюк**

# КЛІФ

Штогод на Божае Цела гданьскія беларусы спатыкаюцца разам і адпачываюць на ўлонні прыроды. У Беластоцкім краі ў чэрвені людзі пра вясну ўжо забылі, але тут, над Гданьскім залівам, усё яшчэ красавалася вясна — цёплая, мокрая і зялёная ў гэтым годзе.

З-за штодзённых клопатаў не адбылася планаваная год таму экскурсія ў Ольштын, каб спаткацца з тамтэйшымі беларусамі. У такой сітуацыі пастанавілі мы пабачыць нязведаныя яшчэ намі куткі гданьска-гдыньскай агламерацыі. Зусім побач з маёй кватэрай знаходзіцца стромкі бераг Гданьскага заліва паміж Каменным Патокам у Сопаце і Рэдловам у Гдыні, званы кліфам. Вышыня кліфа на цэлай даўжыні розная, але ў Рэдлове дасягае 30—40 метраў. Кліф — гэта абрыў высокага берага мора. Паўстае па прычыне абразіі — разбурэння хвалямі і прыбоем берага мора. І так год за годам мора вырывае немалы кусок зямлі. На беразе, акрамя вялікіх і малых камянёў, ляжаць стогадовыя дрэвы, бетонныя глыбы, асфальтовыя сцежкі. Наша групка (Лена Глагоўская з дачкой, сям'я Ані Іванюк, Аляксандр Юзафовіч і ніжэйпадпісаны) у чацвер 15 чэрвеня сабралася ў дзесяць раніцы на пероне „калейкі" ў Каменным Патоку ў Сопаце, скуль пачўся наш паход. Сонечнае надвор'е спрыяла не толькі нам. Па дарозе спатыкалі мы падобных да нас вандроўнікаў. Некалькі супольна праведзеных гадзін далі магчымасць успомніць мінулае і задумацца над будучынёй. Пакуль што мы трымаемся разам. Што будзе далей, невядома.

Маленькае вогнішча, пячэнне каўбасак, падмацаванне патрачанай падарожжам сілы і час вяртацца дахаты. Па дарозе наведалі мы цудоўна распаложаныя могілкі тых салдат, якія загінулі ў 1939 г. і тых, якія паляглі ў 1945 годзе падчас вызвалення Гдыні. Сярод іх многа было беларусаў. Да сустрэчы праз год. Жыве Беларусь!

**Міхась Куптэль**

# ІКОНА НА АРБІЦЕ

Упершыню ў гісторыі касманаўтыкі праваслаўная ікона св. Анастасіі пэндзля Надзеі Лаўровай, мастачкі з Угліча (Яраслаўская вобласць Расейскай Федэрацыі), дастаўлена на арбітальную станцыю „Мір" падчас сумеснага расейска-амерыканскага палёту. Ікону св. Анастасіі благаславілі папа рымскі Ян Павел II і патрыярх маскоўскі і ўсяе Русі Алексій II. Пасля заканчэння палёту яна будзе адпраўлена ў былую Югаславію, дзе на мяжы Сербіі, Харватыі і Босніі мяркуецца пабудаваць царкву святой Анастасіі. Падчас сумеснага палёту плануецца таксама перадаць з космасу па тэлемосце пасланне народам свету першаіерархаў Каталіцкага касцёла і Рускай Праваслаўнай царквы.

(л)

# Зялёным пяром

Выйшаў з друку другі том „Анталогіі творчасці вучняў Лясного тэхнікума ў Белавежы". Змяшчае ён творы шаснаццаці аўтараў, якія ўдзельнічалі ў трэцім (у 1993 г.) школьным літаратурным конкурсе. Падборка твораў і прадмова да іх — Альжбеты Ляпрус, настаўніцы польскай мовы ў школе і заадно апякункі маладых творцаў.

Змешчаныя ў томе творы паказваюць, што вучням для выказвання сваіх поглядаў і адчуванняў найбольш падыходзіць паэзія. Проза ім менш да спадобы, хаця не пазбегаюць яе, напр. Дар'я Іганові ці Марэк Сяпёла, ужо выпускнікі тэхнікума.

Чытаючы творы маладых леснікоў, выразна відаць, што рэчаіснасць успрымаецца імі вельмі востра, балюча. Яны выказваюць супраць яе свой бунт, яна іх раздражняе, унутрана раздзірае. Вядома, частка напісанага датычыць кахання, якое таксама мае свае адмоўныя бакі, як усё жыццё.

Найкарацейшы твор у томе — гэта эротык Магдаліны Дзюбан (да нічога не дайшло...).

Анталогія выйшла тыражом у 300 паасобнікаў. Яе выдаўцом з'яўляецца Лясныя школы ў Белавежы.

**Пётр Байко**

## ЗАСЯДАЛА ТАВАРЫСТВА „ПРЫБЛІЖЭННЕ”

Таварыства супрацоўніцтва народаў Усходняй Еўропы „Прыбліжэнне” дзейнічае ўжо пяты год як навукова-даследчая, грамадска-культурная і грамадска-асветніцкая арганізацыя. Ставіць яна сабе за мэту выяўленне праўды, пераадольванне псіхалагічных бар'ераў, якія раздзяляюць розныя народы, а таксама ўказванне на супольныя вартасці і інтарэсы. Гэты рух намагаецца дзейнічаць у сферы фарміравання польскай і міжнароднай грамадскай думкі ў галіне адносін польскага народа з літоўскім, беларускім, украінскім народамі, імкнецца весці абмен думкамі і вопытам, супрацоўнічаць з арганізацыямі палякаў у Літве, Беларусі, Украіне, Латвіі і Эстоніі і меншаснымі арганізацыямі ў Польшчы. „Прыбліжэнне” інспіруе таксама навукова-даследчую, грамадска-культурную і асветніцкую дзейнасць у галіне ўсходнееўрапейскіх пытанняў на тэрыторыі Польшчы і па-за яе межамі, садзейнічае ў ахове помнікаў культуры і падтрымоўвае мастацкую творчасць, а таксама імкнецца да замацавання супрацоўніцтва і прымірэння паміж народамі.

* * *

Ажыццяўляючы свае статутныя мэты, Таварыства „Прыбліжэнне” ў студзені 1994 года распрацавала „Мемарыял аб сітуацыі ўсходнееўрапейскіх нацыянальных меншасцей у Рэспубліцы Польшча” і накіравала яго дзяржаўным уладам і рэкамендацыйным колам. Грамадскі рух „Прыбліжэнне” — звышпартыйная і звышканфесійная арганізацыя, якая гуртуе не толькі прадстаўнікоў польскага грамадства, але і пражываючых у Польшчы латышоў, эстонцаў, літоўцаў, беларусаў і ўкраінцаў — намагаўся такім чынам паспрыяць узніцню на новых асновах сур'ёзнага дыялога з прадстаўнікамі народаў, якія жывуць між Польшчай і Расіяй.

Рыхтуючы мінулагодні „Мемарыял”, мы бралі пад увагу, між іншым, юрыдычны статус нацыянальных меншасцей у Літве, Беларусі і Украіне, а таксама ў Польшчы, сітуацыю нацыянальных меншасцей ва ўсходнееўрапейскіх краінах у перыядах: 1945 г. — верасень 1989 г. і пасля верасня 1989 г., стан асветы, культуры і навукі, дзейнасць таварыстваў у сваім этнічным асяроддзі і іх знешняе ўздзеянне, стан фінансаў таварыстваў і ўстаноў (уласныя даходы і дзяржаўныя дадзеныя датацыі), кантакты з Бацькаўшчынай (па-за межамі РП). Аналізавалі мы таксама ўдзел нацыянальных меншасцей у стварэнні цэнтральных і самаўрадавых улад (пытанне калектыўнай і індывідуальнай адказнасці), магчымасць грамадска-культурнай і гаспадарчай актывізацыі на тэрыторыі населенай нацыянальнымі меншасцямі. Нашымі дзеячамі вывучаліся таксама сацыяльныя справы і пытанні занятасці насельніцтва, мэтазгоднасць стварэння ўстановы па справах нацыянальных меншасцей, а таксама адносіны да нацыянальных меншасцей у сродках масавай інфармацыі (эфірны час у краёвым і рэгіянальным радыёвяшчанні і тэлебачанні для прадстаўнікоў літоўскага, беларускага і ўкраінскага асяроддзяў).

* * *

27 мая г.г. у Варшаве засядалі прыхільнікі ідэі прыбліжэння народаў Усходняй Еўропы, згуртаваныя ў Таварыстве „Прыбліжэнне”. У першай частцы пленарнага пасяджэння Галоўнага праўлення разглядалася паўгадовая дзейнасць Прэзідыума і намячаліся напрамкі дзейнасці ў другім паўгоддзі. У другой частцы сустрэчы вялася дыскусія над шанцамі ажыццяўлення „Мемарыяла аб сітуацыі ўсходнееўрапейскіх меншасцей у РП”, распрацаванага дзеячамі Таварыства пры дапамозе прадстаўнікоў літоўцаў, беларусаў і ўкраінцаў, пражываючых у Польшчы.

У „Мемарыяле” аўтары выказаліся за тое, каб пры вырашэнні праблемаў нацыянальных меншасцей безумоўна адкінуць прынцып калектыўнай адказнасці. Сярод пералічаных у „Мемарыяле” прапаноў і пастулатаў некаторыя былі супольныя для гэтых трох нацыянальных груп. Адносіліся яны менавіта да навучання роднай мовы, павелічэння датацыі на культурную і асветную дзейнасць, гарантавання неабходнага эфірнага часу. Пастулат грамадска-гаспадарчай актывізацыі ўсходняй Беласточчыны датычыў перш за ўсё пражываючых там беларусаў.

Скарыстанне прадстаўленых высноў у рабоце Сейма, Сената і ўрада мела давесці да такой сітуацыі, калі члены нацыянальных меншасцей — захоўваючы сваю этнічна-нацыянальную тоеснасць — поўнасцю адчувалі б сябе гаспадарамі і лаяльнымі грамадзянамі РП.

З выказванняў варшаўскіх дзеячаў БГКТ вынікае, што ўсе змешчаныя ў „Мемарыяле” пастулаты надалей захоўваюць сваю актуальнасць. Дабавілі яны яшчэ дзве новыя прапановы. Першая датычыць неадкладнага правядзення пракурорскага расследавання выпадкаў злачынстваў, учыненых польскімі атрадамі ўзброенага падполля на беларускім насельніцтве Беласточчыны ў 1943—1956 гадах. Другі пастулат патрабуе стварыць юрыдычныя і матэрыяльныя ўмовы для неабмежаванага развіцця беларускай культуры, асветы, навукі, мастацкай творчасці і палітычнай дзейнасці беларускай меншасці ў РП, асабліва на Беласточчыне.

У дыскусіі (момантамі надта эмацыянальнай) прамоўцы ўказвалі на іншыя праблемы, напрыклад, на адмоўны стэрэатып беларуса, які функцыяніруе ў Польшчы і па-за яе межамі. Дзеячы з клопатам гаварылі аб асаблівых выпадках паланізацыйнай дзейнасці польскіх ксяндзоў у Беларусі. У сувязі з абыякавым стаўленнем улад да пастулатаў і прапаноў беларускага асяроддзя прапанавалася стварэнне такога механізма паспяховага націску на паасобныя ўстановы, каб да беларускіх пытанняў ставіліся яны сур'ёзна і давалі ясныя адказы, без замоўчвання і фальшаванняў.

У такім кантэксце ўдзельнікі пленума станоўча выказваліся наконт цяперашняй і будучай — планаванай — ролі Таварыства „Прыбліжэнне”.

**Міхал Занчэўскі**

## РАДЗІМА — РОДЗІНА

**Частка XVII**

Сёння прыводжу заканчэнне выказванняў Сцяпана Багнюка аб радзіме:

„Я табе, Баршчэўскі, скажу так, што я ў канцы канцоў сам не ведаю, што думаць аб нашым народзе. Нібы то нашы людзі і працавіты, і гасцінны, і добры. Ну, але што з гэтага, калі мы добры для другіх, але кепскі для сябе. Хто што хочэ, тое і вырабляе на Беларусі. І рускі бушавалі ў Беларусі, і палякі рабілі што хацелі, і немцы пабілі мільёны людзей, а калісь то і шведы, і манголы, і французы. А ты мне скажы, каго заваёвывалі беларусы? Нікого. Ні толькі ні заваёўвалі але і сябе не маглі абараніць. Чы ты знаеш аб тым, што от і цяпер польскіе ксяндзы едут на Беларусь і там чвэрат усё, што хочут. То чы можна сабе уявіць, што папы з Расеі чы з Беларусі прыязджают у Польшчу і тут разводзят свае фэнабэрыі? Каб штось такое здарыласё, то палякі іх так турнулі б, што яны не ведалі б куды ўцікаць. А бачыш, беларусы маўчат, і ўсё. Ну а з сваго боку то і рускіе жмут на тую Беларусь як толькі могут. Ну то ты мне, Баршчэўскі, скажы, чы Беларусь то выдзержыт такі вялікі нажым? Ты ж часто бываеш у Беларусі, то ты можэ знаеш, чы там сегодня папы моляцца па-беларуску і за Беларусь, чы яно там і цяпер таксамо як было за цара, ну, значыцца, чы далей моляцца па-руску за Расею?

Незалежнасць, то яно вядомо, што гэто вельмі добрэ, але чы такая страна як Беларусь — без мора і без жалеза і вугля можэ быць напраўду незалежна? Ну яно вядомо, што ўсё гэто залежыт ад народу, але мне то здаецца, што беларусы то яны не стаят за тую незалежнасць так, як рускіе або палякі. Ты, Баршчэўскі, гаворыш, што кожны народ сябе пракорміт і што беларусы, так як і іншы народы, могут быці незалежны. Можэ яно так ест напраўду, але бачыш, усё дзело ў тым, чы пры гэтай незалежнасці будзе жыцца людзям лепш чы горш, чым жылося ў Савецкім Саюзі. Калі акажацца, што цяпер жывецца горш, то беларусы будут страміцца да таго, каб зноў быць разам з Расеяю.

Бачыш, усё дзело ў тым, што беларусы ваявалі заўшэ за другіх, а не за сябе. От таму ім гэта незалежнасць не такая дарагая як другім народам. Ну, я не хачу гаварыць, што з гэтае незалежнасці нічого не будзе. Можэ маладые пакаленя то ўжэ будут на гэто дзело глядзець па-другому. Але калі яно так станецца то не вядомо. Ты знаеш, Баршчэўскі, што мне найбольш цяпер ні нравіцца ў Польшчы? А тое, што Польшча надта ўжэ лезе ў с... немцам і амерыканцам. Я то там не веру, што нам немцы чы амерыканцы дадут веліке шчасце. Там дзе капітал там і вызыск. Ну можэ яны для заманкі падкінут крыху грошай, але после то з жывого сцягнут скуру. От не ведаю як на гэты шчот выглядае справа з Беларусяй, чы Беларусь таксамо сілаю прэцца ў гэтэ НАТО? Ні знаю, чы гэто праўда, але мне гаварыў заяц, што калі толькі Польшча ўвойдзе ну ў якуюсь там еўрапейску спульноту, то тады кожны чалавек з Еўропы, калі толькі схочэ, то будзе магчы купляць у Польшчы колькі хочэш зямлі або фабрык. То калі яно так станецца, то тады Польшчы па землях адзысканых будзе хана. Там усё немцы выкупят, а палякі будут у іх парабкамі. От і не будзе патрэбна вайна, непатрэбны тангі, самалёты і арудзії. Без аднаго выстрала немец заваюе Польшчу. А ты думаеш, што яны ў Польшчы задзяржацца? Не, папаўзут далей на ўсход у Беларусь і ў Расію. От і такім спосабом зробят тое, аб чым мечтаў Гітлер. А нашы дурные народы поймут гэто, але будзе ўжэ позно. Нашым усім народам трэбо было разом трымацца і зорко глядзець, што робят немцы.

Мне то здаецца, Баршчэўскі, што родзіну то трэбо берагчы і бараніць, а не пазволіць, каб кажды брадзяга па ёй свабодно разгульваў і рабіў што сабе хочэ толькі таму, што ён мае ў кішэнях даляры”.

**Алесь Барскі**

## ЖЫДЫ

*Працяг са стар. 3*

абы-якой спадніцы, ды ў парваных трэпках прыходзіла да нас аж з далёкае Орлі. Для мяне гэтыя дзевяць кіламетраў былі далячынню. Але і сёння думаю, што ісці з мяшком за спіной і з кошыкамі на руках не было так ужо і лёгка. Небарака Геня насіла па вёсках усё, што было патрэбнае вясковай гаспадыні і яе сям'і — іголкі, ніткі, напарсткі, матэрыялы на спадніцы і сукенкі, селядцы і іншую дробязь. Прадавала гэта ўсё за яйкі, анучы, ну і за грошы, але грашыма мала хто плаціў. Летам гаспадыні плацілі пераважна яйкамі. Я адзін раз таксама прадаў ёй знойдзеныя ў зеллі чатыры яйкі за дванццаць грошаў. Вельмі цешыўся, што куплю ў Барана цукеркі. Геня таксама мела цукеркі і я іх мог узяць у яе, але мне хацелася пацешыцца грашыма, ды пахваліцца перад калегамі, які я багацей. Але гэтыя грошы бачыў я толькі столькі, пакуль Геня была ў нашай хаце. А была яна коратка, бо мачыха нічога не хацела купіць.

Шломка і Шайка (не ведаю, ці гэта іх сапраўдныя імёны, ці іх толькі так называлі нашыя мужыкі) у вёску прыязджалі вазамі. Коні ў абодвух былі вельмі худыя, але неяк валачылі за сабою вазы, у якіх было больш тавару, чым у беднай Гені. Яны прапанавалі людзям гаршкі, нажы, ды іншую кухонную пасудзіну, як квартачкі, кубачкі, вёдры, ды матэрыялы на вопратку і таксама селядцы. Тавары яны мянялі на анучы і яйкі.

Колькі яны ўсе на гэтым зараблялі і як жылі, гэта ўжо для мяне сакрэт. Але я чуў ад людзей, што ў яўрэя можна было пазычыць грошы, можна было браць патрэбныя тавары напавер, а гэта бедным сялянам было адзіным паратункам на прадвесні, або ў час навалу палявых работ, калі яшчэ не было чаго завезці ў мястэчка і прадаць. З крэдытарамі разлічваліся позняй восенню і зімою, калі сяляне „багацелі”. Бяру гэта ў двукоссе, бо вядома, якімі багацеямі былі бедныя сяляне за панскай улады.

Сёння мне жонка расказвае, што да яе вёскі таксама прыходзілі бедныя яўрэі з Гарадка і таксама таргавалі, чым маглі, каб неяк пражыць з дзецьмі. Як і сярод арлянскіх яўрэяў, у Гарадку былі краўцы, шаўцы, сталяры, лекары і бедныя. Як усе грамадзяне Польшчы жылі яны па-рознаму, але найменш або зусім не клалі. Як зараблялі, так і жылі. Але калі нямецкія жандары застрэлілі жончынага бацьку на панадворку на вачах ягонай жонкі і дзяцей, а сям'ю пасадзілі ў арышце ў Гарадку, то яўрэі хутка назбіралі грошай, ды хацелі неяк перадаць іх беднай сям'і, каб тая змагла выкупіцца ад немцаў і выратавацца ад вывазу ў Нямеччыну. Аднак польскія паліцаі і жандары не дапусцілі да гэтага.

Я асабіста, калі ўжо працаваў, сярод яўрэяў меў найлепшых сяброў. Гэта хіба таму, што яны і я лічыліся нацыянальнай меншасцю. Праўда, знайшоўся адзін такі, які мяне пакрыўдзіў, але ж на аснове адной паршывай авечкі нельга сказаць, што ўсе пагаyня. А было вось так. У 1958 годзе праводзіўся абмен партбілетаў. Пан Міхал Джэвецкі, дырэктар дэпартамента, як прадстаўнік участковай парторганізацыі ўручыў нам новыя пасведчанні. Выклікаў усіх па прозвішчах. А калі дайшло да мяне, паднёс вочы на залу і гучна сказаў: „Якісь Базылі, нех подэйдзе і одбежэ легітымацье”. Я падышоў, вырваў працягнуты мне білет і злосна, пакрыўджана сеў у крэсла. Тым болей было мне прыкра, што я перад гэтым запрапанаваў арганізацыі, па ягонай просьбе, адхіліць палкоўніку Джэвецкаму партыйнае пакаранне. Але гэта быў бабнік і наогул свіння. Да такіх яўрэяў цяжка залічыць.

Сённяшнія, некаторыя суперпатрыёты, а асабліва нейкі Вжодак і ксёндз Генрык Янкоўскі, бессаромна крычаць, што яўрэі выклікалі другую сусветную вайну, іншыя сённяшнюю ўладу завуць жыда-камунай, каб усе свае махлярствы ды няўдачы скінуць на яўрэяў. Добра, што яўрэі гэта не мы і думаю, што яны не дазволяць, каб іх беспадстаўна абражаць.

„Не чапай жыда, не скаляеш віду”, — так мне, малому, сказаў стары сталяр. Цешуся, што сярод беларусаў не спаткаў я нікога, хто дрэнна ўспамінаў бы яўрэяў, ці абвінавачваў іх у нейкіх злачынствах, якіх ніколі не зрабілі. Добра што прынамсі мы памятаем іх як суседзяў і знаёмых, якія жылі сярод нас і супольна дзялілі бяду.

**Васіль Петручук**

# Нарыхтоўвайце кроп на зіму!

Не ўсе гаспадыні пераканаліся ў сваім жыцці, якой цудоўнай прыправай з'яўляецца зімою кроп. А таму менавіта, што ніколі не нарыхтоўвалі яго на зіму, хаця летам кідалі шмат кропу ў суп, соусы, вараную бульбу, можна сказаць нават, што пасыпалі пасечаным кропам амаль усе стравы.

Аднак жа вопытныя гаспадыні выкарыстоўваюць кожную раслінку, якая вырасце ў іх на гародзе, і таму нарыхтоўваюць кроп на зіму, сушачы яго, солячы ці марозячы ў маразілцы. Калі ў каго няма свайго гарода, дык ён купіць маладога кропу і зробіць з яго запас на зіму.

Якраз цяпер пара нарыхтоўкі кропу. Павінен ён быць малады, але ўжо добра вырослы, цёмназялёнага колеру.

Калі мы будзем кроп сушыць, трэба спачатку яго памыць, тады паабрываць малыя галінкі, разлажыць іх на сцірачцы, каб добра абсохлі. Толькі пасля гэтага сушыць у духоўцы пры тэмпературы прыблізна 50 градусаў, разлажыўшы кроп на бляшцы, засцелёнай пергаментнай паперай. У той час, калі кроп сушыцца, трэба часта адчыняць дзверцы духоўкі. Добра высушаны кроп павінен лёгка крышыцца. Тады можна перасыпаць яго ў выпражаны слоік і закруціць шчыльную пакрыўку.

Некаторыя любяць саліць кроп. Падрыхтоўваюць яго таксама, як і да сушэння, аднак, трэба яго дробна пасячы. Тады кладзем у невялікія слоікі з пакрыўкамі пластамі, кожны пласт засыпаючы соллю ды ўтрамбоўваючы. Зверху павінен быць пласт солі. Прыблізна на паўкілаграма кропу трэба ўзяць 10—15 дэкаў солі. Напоўнены слоік неабходна зачыніць выпражанай ці выпаранай закруткай. Зімою такі кроп ужываюць, як свежы. Толькі нельга забывацца, што стравы тады трэба саліць значна менш, бо кроп ужо салоны.

Найлепшы спосаб перахоўвання кропу зімой — гэта замарожванне. Гэткім чынам атрымліваецца найбольш араматная прыправа, а да таго ж захоўвае і колер, і смак.

Замарожваць трэба чысты, пасечаны і, галоўнае, сухі кроп. Усыпаць кроп у слоікі або нейлонавыя мяшочкі і палажыць у маразілку. Зімою браць патрэбную колькасць замарожанага кропу і адразу класці назад у маразілку.

Кроп — прыправа недарагая і няшмат працы пры нарыхтоўцы яе на зіму, але адчуць летні арамат зімою — якая ж гэта радасць сям'і!

Памятаю, як калісьці зімою прыехалі да мяне мачыха-нябожчыца з бацькам. Нарыхтавала я ўсяго поўна, а ёй з усіх страў найбольш спадабаўся і застаўся ў памяці суп-расольнік — з кіслымі агуркамі, які я густа пасыпала марожаным кропам.

Зялёны кроп зімою — паэзія!

**А.Ч.**

## ПАРНАС

ЧЫТАЛЬНІЦКАЯ ЛІТСУПОЛКА НА НЕГАРАНТАВАНЫХ ПАЯХ

### Лета

Чэрвень! Работы разгар,
Проста аж хапае жар.
Няма калі адпачываць —
Селяніну трэба спяшаць.
Такая відаць наша доля,
Хоць маем дэмакратыю, волю,
Ніхто нас не заступіць,
Хутчэй грошы ўсё злупіць,
Бо за ўсё трэба плаціць
А гора, калі нешта баліць...
Грошы ідуць як вада
Калі ў нас гора, бяда.
Маем машыны, палёгку,
Багацця ўсяго на падворку.
Ды работы чамусьці не менш;
Бягом пішу гэты верш.
На хаду я пішу
І на „Ніву" лічу,
Што надрукуе
І не зазлуе.
Маем сонца і пагоду —
Трэба брацца за работу.
Усё буйна даспявае —
На час жніва так чакае.
Хоць і цяжка ўсё прыходзіць
Ды радасць душы наводзіць.
Работа касцей не ломіць —
Лодырства ўсіх нас зломіць.
Усе пішуць толькі пахвалы,
Калі ідуць на балі.
Я хачу пісаць праўдзіва,
Проста, шчыра і не дзіўна.

**Мікалай Панфілюк**

## Да „абранцаў народа"

Сасвяччэлая макулатура — мана-культура расклалася пад незаўважальнай сілай тлену. Накіроўвацца хочуць людзі на перабудову жыцця на пуці нармальныя — быць у сусвеце і жыць, функцыянаваць, папраўляць, разумець і любіць істоту „чалавек". Жыць нармальна хочуць, з гонарам.

Я, просты чалавек, хачу гаварыць з тым, хто ўзяў уладу ў рукі і трымае як пятлю, каб зашмаргнуць і перастаў я дыхаць і не змог нічога ўчыніць, паправіць, змяніць, хаця ў мяне розум і галава і сэрца б'е ў грудзях. Чалавеча, дарваўшыся да ўлады над іншымі! Куды ты накіроўваешся сам і куды хочаш валачы іншых?! Кажаш, што баішся толькі Бога. Ён мой таксама, як і іншых людзей. І ты таксама пачуй мой голас, і прымі гэта ў сваё сэрца ды дапусці да свайго розуму, бо хутка ўжо паўстане лад іншага цара...

Колькі чакаць можам і жыць за пару грошаў? Ці мы, старыя людзі, за каго горшыя? Ці не жылі мы і не працавалі, карысці не давалі? Правам не паддаваліся? Можа, ты падзелішся з намі сваім маёнткам, які нажываеш за нашыя грошы? Паставілі цябе і паднялі высока, будзеш падаць вельмі глыбока! Што тут мне пісаць — народ хоча з **табой** размаўляць.

**ЇДА**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Вялікая зала. Тры сталы. Я на тых сталах рабіла лякарства для націрання. Развалкоўвала на гэтых сталах штосьці падобнае на цеста, жоўтага колеру. Увайшоў працаўнік з нашага прадпрыемства (стары кавалер, ён смяротна хворы ракавай хваробай), сцягнуў са сцяны дыван (пасяк), які вісіць у мяне на сцяне. Згарнуў, схаваў пад паху. З рукі вырваў бутэльку з лякарствам для націрання і ўсе тыя лякарствы, што я развалкавала на тых сталах, і пайшоў. Я астўбянела. Думаю: „Што ён зрабіў!" І ўвайшоў мой сын. Падышоў да стала, дзе ляжала вараная паляндвіца і каўбаса. Схапіў паляндвіцу. Я кажу: „Што ты робіш?" А ён кажа, што толькі паляндвіцу ўзяў, каўбаску аставіў мне.

Я знервавалася страшэнна і прачнулася.

**Кацярына**

Кацярына! Чакае цябе непрыемная справа. Аб гэтым сведчыць тое лякарства, якое ты падрыхтоўвала. Праўда, забраў яго ў цябе той стары кавалер з тваёй працы, дык магла б тая справа быць звязана з ім (мо яго стан здароўя пагоршыцца). Аднак жа сарваў ён яшчэ са сцяны твой дыван, а дыван абазначае спакой і багацце. Значыць, нехта пазбавіць цябе гэтага.

Да таго ж і сын забраў у цябе вараную паляндвіцу. А варанае мяса абазначае ў сне, што ўсё будзе добра. Горш, калі сніцца сырое — абазначае яно хваробу і смутак. Ну, дык забяруць у цябе спакой, як забралі паляндвіцу.

Такім чынам, непрыемныя справы цябе не абмінуць.

**АСТРОН**

# Гутаркі ў дарозе

— Ведаеце, — пачала размову з выгляду саракагадовая жанчына, — як мы сёння сядзелі ў вагоне на другім паверсе, то на нас напалі хуліганы. Яшчэ дзецюкі. Найстарэйшаму было недзе з пятнаццаць.

— Ну, у Гайнаўцы дагэтуль не было такіх інцыдэнтаў, — азвалася старэйшая цётка. — А чаго ж яны ад вас хацелі?

— Хацелі, каб даць ім папяросы і спірт. А ў нас гэтага не было. Я толькі думала: дзе ахоўнікі чыгункі, дзе паліцыя!?

— А вы звалі дапамогу?

— Дзе там, баяліся. Яны з лязамі, з нажамі. Падышлі да мужчыны ў кажусе, сцягнулі з яго верхнюю вопратку і пачалі яго біць нагамі і кулакамі. Ён пачаў прасіцца на ламанай польскай мове: „Хлопачкі, цо одэ мне хцэце? У мяне нічэво нет".

— Мужчына, і пабаяўся? То ж вас было напэўна больш, чым гэтых разбойнікаў! У вас жа таксама былі хоць бы каляскі, маглі б абараняцца, калі б што?..

— У іх жа ружжо! Каму хочацца, каб усадзілі яму нож у жывот!

— Сам усадзіў бы сабе, хамула! Бачыш ты — што ў іх за бацькі, не цікавяцца, куды іх дзеці ходзяць!

— Яны ж усе да таго яшчэ і п'яныя былі! А нахабныя! У адной пасажыркі быў пратэз з залатымі зубамі. Толькі азвалася, дык ёй параілі: „Яшчэ пісні, то так табе дамо па тваіх жоўтых зубах, што цябе сямейнікі не пазнаюць!" Той мужчына сядзеў ужо ціха, думаў, пэўна, добра, што ад яго адчапіліся. Калі ў нікога не знайшлі ні цыгарак, ні спірту, вылаяліся і пайшлі.

— А што было б, калі б патрабавалі грошай?

— Пэўна, прыйшлося б аддаць тое, што нагандлявалі, і паехалі б мы дадому з пустымі торбамі.

— Я — не! Я б зрабіла парадак з такімі смаркачамі! Я не раз ездзіла да свайго сына на захад Польшчы, бачыла вашых з такімі сумкамі, што го-го! Ехалі ноччу.

— О, гэта расейцы. Яны нічога не баяцца...

Жанчына з Беларусі размаўляла па-расейску, гайнаўянка — на беларускім дыялекце.

**Аўрора**

# ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. мінерал, 3. косць, 5. цвёрдая мінеральная парода, 7. дугападобнае перакрыццё акна або дзвярэй, 9. апавядальны род мастацкай літаратуры, 10. не прызнае нацыянальнасці, 11. кофе, 12. еўрапейскі вулкан, 14. эпас Гамера, 16. вопратка, 17. літаратурны жанр.

**Вертыкальна:** 1. пратэстанцкі святар, 2. сталіца Бангладэш, 3. дамашняе жывотнае, 4. савецкая „ферма", 6. вялікі, галоўны горад, сталіца, 8. пажыўны напітак, 9. клічка, 11. вадаспад з уступамі, 13. сістэма ведаў, вучоба, 14. мана, 15. іспанскі мастак-сюррэаліст.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 21 н-ра:** Японія, нітрат, Растоў, таполя, кляймо, каўчэг, клетка, Іматра, тугрык, рэцэпт, эгаізм.

## Народныя прыкметы
## Ліпень

Калі Пятро з Паўлам плачуць, людзі праз тыдзень сонца не ўбачаць.

На Пятрэ, то і па цяпле.

Кузьма і Дзямян прыйшлі — па пожні пайшлі.

Калі брусніцы паспелі, дык і авёс дайшоў.

На Іванаву ноч зорна — будзе многа грыбоў. Вялікая раса — ураджай агуркоў.

Вечарам і раніцай туман сцелецца нізка па вадзе і зямлі — дзень будзе сонечны і ясны.

*Карысныя парады*
Янкі Цалушэцкага

## Год у гаспадарцы
### Ліпень на сядзібе

Асноўныя работы ў ліпені засяроджваюцца ў полі. Канчаюцца сенакосы і пачынаецца жніво. Неабходна ладзіць вазы, жняркі, косы. Чысціць стадолы. Адразу рабіць падворыўку і баранаваць. Сеяць паржышчавыя культуры (паплёны) на корм жывёле.

Улетку свойскую жывёлу многія сяляне пакідаюць на пашы. Але калі ёй не даюць спакою камары, рабіць гэтага не раю. У хляве жывёла спакайней адпачывае і настолькі не палохае летні гной.

У садзе даглядаць фрукты, падпіраць галінкі. Тычыць фасолю і агародні гарох. У агародзе канчаецца выбіранне агуркоў і памідораў. На звольненых месцах у агародзе карысна пасадзіць цвятную, пекінскую, ліставую капусту, рэпку, фасолю на стручкі або пасеяць лубін на заворку. Непакрытую раслінамі агародніну глебу вымываюць ліпеньскія дажджы.

У засуху на пасецы ставіць ваду. Збіраць і сушыць крапіву курам на зіму. Падскубваць гусей і качак, каб не гублялі пер'я. Зашчапіць свіней ад ружыцы (чырвонкі).

Ніва

"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраловіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1995 r. upływa 20 sierpnia 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 7,00 zł (70 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,10 zł (11 000 st. zł), a kwartalnie — 15,40 złotych (150 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

## Знарок не прыдумаеш

**Фрагмент ліста нашага чытача з Беларусі, які нядаўна наведаў Беласток і якому мы падарылі падшыўку „Нівы" за мінулы і гэты год:**

Даехалі мы добра, прыгод асаблівых не было. Праўда, у Гародні на вакзале беларускі таможнік глядзеў сумкі. Дастаў „Ніву" і па рацыі пытае: „Филатов, здесь везут газету „Нивá" *(націск на „а")*. Что делать?" А Філатаў па рацыі дае адказ: „Да ради Бога, пусть везут". Я ледзь-ледзь вытрымаў, каб гэтаму тупому таможніку не сказаць пару добрых сказаў. Але думаю, забярэ яшчэ ўсю падшыўку, шкада будзе. (...)

**Сяргей**

## Думкі ўслых

* Святло — дзірка ў цемрадзі.
* Дупло — кішэнь дрэва на гадзіннік з зязюляй.
* Прапаў сумесна з адплывам наяўных грошай.
* Гамак — рай для гарбатага.
* Слёзы — крыніца пачуццяў.
* Цяжка кідаць словы на вецер гісторыі.
* Калі ў чалавека няма з-за чаго смуткаваць, смуткуе з-за абы-чаго.

**Адам Сяменчык**






Мал. Лявона Разладава ("Свабода")

*Сакрат Яновіч*

# Чары-мары Беларусі

Паляк сам сабе — быццам анёл белакрылы, якога чамусьці крыўдзіць і крыўдзіць цалюткі свет, а ён, нябога, адно цярпліва адвешвае паклоны Богу (чытай: Вытыкану). Калі і шпурне ў каго нечым, дык, аказваецца, акрайцам хлеба або і пірага. Расіянін настолькі іншы ад паляка, што ён, замест скардзіцца на ўсё ды ўсіх, заядла збаўляе ўсенькае чалавецтва, дабіваецца Раю на Зямлі, і таму, пэўне ж, ходзіць абадраны, непамыты, галодны (больш паловы насельніцтва Расіі жыве на ўзроўні чорнае Афрыкі). Беларус жа паміж імі дрыгаціць, няйначай як у ролі несумненнага нацыяналіста па той простай прычыне, што не ведае, куды кінуцца: раз у палякі, раз у маскалі. І так шмыгае — то пад крылы аднаго арла, то другога. Нацыя мышак.

Пальшчызна — ого, мова Еўропы, калі прыняць, што еўрапейскасць культуры цалкам змяшчаецца паміж Бугам і Одраю. Расейскае ж выслоўе — балазе — мова сусветнага прагрэсу і камунізму, якому дастаткова прасторы ад Уладзівастока да Гродна. Паэт Маякоўскі, аўтар афарызма „Партыя — гэта Ленін", марыў быў некалі, каб негры загаварылі па-руску, але, відаць, ужо не загавораць. Беларускае слова між імі, вядома, асуджана на пагарду за непрыдатнасць ягоную дзеля пабудовы высокае культуры простанароддзю, ані тым болей у якасці сродка зносінаў, міжчалавечых, у шчаслівыя перашэпты ў гарантаваную яшчэ Хрушчовым светлую будучыню. Прычым і неэратычнае ўсё ж яно. Аддае хлебам і салам, што дадаткова не прарочыць яму перспектыў у далікатную элегантнасць. Справа ў тым, што нснаеднасць жывата лічыцца часовай з'явай у цывілізацыі, людкове пачнуць жа з часам жыць святым духам. З нябеснай годнасцю, без сёрблівага прымітыву лыжкі і талеркі.

Прэзідэнт Беларусі — наш бацька і правадыр — геніяльна ўсё прадбачыў. Жаляцца на яго толькі дурні. Слушна ўзяла прэзідэнта халера, наслухаўшыся напарфумаваных лірыкаў нерэальнае Беларусі. Махнуўшы, вось, натруджаным на калгасным полі кулаком, крыкнуў: — Лупі спадароў, працоўны народзе, я іх знаю!

Для дэмакратычнага прыліку наладзіў (нелегальна) рэферэндум, якім, праўда, не ўсе скваплiва масава пакарысталіся ды нічога: адных, ашалелых бядою, ветэранаў хапіла б нават, каб з беларушчыны пасыпалася пер'е! Кожнаму сацыялістычнаму ідыёту ясна, што беларуская мова — гэта мова кулакоў, фабрыкантаў, фашыстаў, контррэвалюцыянераў, белагвардзейцаў, сіфілітыкаў і параноікаў. Заразная яна, горш эпідэміі, і трэба выкараніць яе, каб і ўспаміну па ёй не засталося, вось цо да!

А наогул кажучы — шпар свой свайго, каб чужы і духу нашага баяўся! Палякі, нябось, не сунуцца ўжо ў Беларусь, арла свайго ў залатой кароне пашкадуюць. Значна неспакойней будзе з боку расейцаў, арол жа ў іх ажно дзве галавы мае, могуць рызыкнуць у нашы межы. Хоць, на здаровую мазгаўню падумаўшы, нахер ім беларуская здабыча: лёгка замуж бабу ўзяць, але потым карміць яе мус.

Порсткая Чачня тут не прыклад. Каўказ ніколі не разяўляўся на расійскае дабро, што заўважыў — заўчасна забіты ў мікаласўскую пару ў закубанскім Пяцігорску — вялікі Юрый Міхайлавіч Лермантаў: „Прощай, немытая Россия! Страна рабов, страна господ..."

З чым можна параўнаць беларуса? З Кентаўрам! Зад конскі, перад мужчынскі... Трохі не зусім так ды не хачу намёкаў на Пагоню. У адпаведнасці з тэорыяй невыпадковасці выпадковасці ўказваю на сэнсоўнасць бяссэнсавай змены сімволікі Рэспублікі Беларусь. Дакладней, на некаторую магічнасць таго, нематэрыяльную беспрычыннасць у лепшых традыцыях антымарксісцкага светабачання, ідэалістычнай трактоўкі гісторыі. Магія менавіта трох сігнальна-таемных знакаў падказвае зрабіць зразумелыя высновы: Чачня, Кентаўр, Пагоня.

Чачэнцы — інфармую непаінфармаваных — люд мусульманскі, у якога зялёны колер лічыцца святасцю. Лукашэнкаўцы ўшанавалі тое неяк падсвядома, фундуючы Беларускай Дзяржаве чырвона-зялёны якраз сцяг. Чачэнцы, як па-гуральску ганаровыя фацэты, не засталіся ў даўгу перад савецкімі беларусамі, даўно прадчуўшы іх пашану да сябе, таму загадзя ўзвысіўшы ў бітвах з Масквою баявы зялёны штандар з кідкай у вочы бел-чырвона-белаю паласою на ім. Не чуваць нешта пра чачэнскі герб, але і не дзіва: свіснулі нам яго літоўцы-жэмайты, каб яны так здаровыя былі. На ўсякі выпадак, аднак жа, мы хуценька новы прыдумалі, надта ж панадны рыцарскаму каню, з вянком апетычнае канюшыны са збажыною... З узыходам сонца ў ім, бо найсмачней дэрашу ўпоранкі, што пацвердзіць першы сустрэчны пастух.

Чары-мары не будуць цягнуцца ў Беларусі без канца. Надыдзе одум. Чачэнцы па-добраму аддадуць нашы нацыянальныя колеры, пакінутыя ім у дэпазіт як быццам. З жэмайтамі як з жэмайтамі, дойдзе да калатнечы або і мардабою, але дамо рады, іх жа ўтрая менш. Сапраўдная бяда затое чакацьмець з вяртаннем беларускай мовы: нібы здалі яе на пацеху Беласточчыне, але тамака яксьці не бачыцца радасці падарункам. Круцяцца, як з вашыма за каўняром.

# Смех у санаторыі

### або „Даўціпы" з альбома Андрэя Гаўрылюка

Сужонства шпацыруе па заапарку. Калі апынуліся побач клеткі з гарыламі, вялікі самец выцягнуў лапу, уцягнуў жанчыну ў клетку і пачаў з яе здзіраць вопратку ў недвухсэнсавых намерах.

— Каханы, зрабі нешта, — просіць яна мужа.

— Скажы яму, што табе галава баліць.

* * *

Сустракаюцца Іван і Грыша:

— Здароў, Грыша! Даўно не бачыліся; што ў цябе?

— Ажаніўся я, — адказвае Грыша.

— І што, лепш?

— Лепш то хіба не, але затое часцей.

* * *

— Пан доктар, мінае ўжо год, як мы пажаніліся, ды інтымныя зносіны нам не ўдаюцца. Так, папраўдзе, то не ведаю, як гэта робіцца.

Лекар, малады, нежанаты выпускнік медыцынскай акадэміі, не ведаў, як гэтую справу выясніць пацыенту. Паклікаў яго да акна і паказвае:

— Бачыце гэтыя два сабачкі на газоне? Гэта трэба рабіць так сама.

Мінула некалькі дзён і пацыент зноў наведвае лекара:

— Сардэчна вам дзякую, пан доктар! Нашыя інтымныя зносіны цяпер складаюцца цудоўна. Толькі спачатку жонка не хацела ўвайсці на газон.

* * *

Ксёндз з манашкай хадзілі ад вёскі да вёскі і збіралі грошы на пабудову новага касцёла. Застала іх ноч і яны папрасіліся на начлег да аднаго селяніна.

— У мяне толькі адно свабоднае ложка, — заклапочана сказаў гаспадар.

— Нічога, гэта нам не перашкаджае; будзем з сястрою спаць у адным ложку, — сказаў ксёндз.

Набожны мужык не разумеў, як гэта ксёндз з манашкаю могуць спаць у адным ложку. Адклікаў ксяндза на бок і выявіў свае сумненні.

— Гэта вельмі проста, — выясніў ксёндз, — паміж сабою паложым дошку.

— А як ксяндзу захочацца? — непакоіўся селянін.

— Тады пайду на шпацыр.

— А як манашцы захочацца?

— Дык яна пойдзе на шпацыр.

— А калі вам абаім захочацца?

— Тады дошка пойдзе на шпацыр.




Мілае Сэрцайка, мы працавалі разам. Ён быў прыезджы, а я з Беластока. Адкуль мне было ведаць, што ён жанаты?! Нейкія чуткі хадзілі па асяроддзі, але канкрэтна ніхто нічога не ведаў. Быў вельмі сімпатычны, а калі ўсміхаўся, на яго шчаках рабіліся далікатныя ямачкі. Брунет, высокі. Я закахалася.

Не быў і ён абыякавы ў адносінах да мяне. Мы пачалі сустракацца. Спачатку хадзілі па кавярнях, сустракаліся ў знаёмых. а пасля нейкай вечарыны ён проста сказаў: „А цяпер ідзем да мяне!" Я без ніводнага слова пайшла за ім і аддала яму сваю цноту. Быў ён, такім чынам, маім першым мужчынам.

Паколькі ў мяне была свая кватэра, а ў яго — свая, дык сустракаліся мы то ў яго, то ў мяне: не было ніякіх перашкод. І ён заставаўся ў мяне нанач, і я ў яго.

Калі я ўжо лічыла яго амаль сваім мужам, даведалася, што ў Варшаве ёсць у яго жонка і дзесяцігадовая дачка. Сказаў мне, што гэта не мае ніякага значэння ў даны момант і не перашкодзіць нашаму каханню.

І сапраўды, гэта не перашкодзіла, але перашкодзіла што іншае. У яго жыцці з'явілася іншая кабета. Не скажу, каб стаў кепска адносіцца да мяне, але лічыў мяне больш сяброўкай, з якой можна схадзіць на каву ў кампанію, выкручваўся ад сустрэч у хаце. А я бачыла, што ён ашалеў на пункце наступнай кабеты.

Вось табе і першы мужчына! Я думала, што ён з часам развядзецца і мы станем мужам і жонкай, а ён гэтак!

Што я перажыла, ведаю толькі я. Ведаючы, што сустракаецца з іншай, я, быццам дурная авечка, бегла да яго на кожнае спатканне, калі толькі кіўнуў ён пальцам. Не было ні пачуцця гонару, ні жадання заняцца некім іншым. Засеў у маім сэрцы і не магла я яго вырваць адтуль ніякім чынам.

Я кахала яго да такой ступені, што пакахала і яго новую каханку. Няраз мы хадзілі ўтраіх у розныя кампаніі. Я — у якасці сяброўкі, а яна — як каханая дзяўчына. Мне было горка і часта сорамна, калі ён абцалоўваў яе на вачах усіх. Усе ж ведалі, што ён быў мой. Але ўсё роўна я была ў адносінах да іх дабразычлівая. Тая новая пачала мне давяраць свае таямніцы. Тады і я сказала ёй, што ў яго ёсць жонка. Мо нават хацелася мне, каб у іх нешта лопнула... Ну, і скончылася. Дзяўчына выйшла за першага француза, якога сустрэла ў гатэлі (там працавала) і выехала ў Францыю.

Я думала, што калі скончыцца той раман, дык ён вернецца да мяне. Не, не вярнуўся. Я была побач заўсёды, але ён шукаў яшчэ іншых. Нарэшце, ён выехаў з Беластока. Вярнуўся ў сваю родную Варшаву, да жонкі, да дачкі. А куды мне было ехаць? Засталася я самотная і нешчаслівая. На тры гады завербавалася на працу заграніцай. Думала, усё пройдзе. А дзе там! Вярнулася, а сэрца да яго кліча. Наладзіла з ім ізноў сувязь. Езджу часамі да яго, тады сустракаемся, як даўней. Вярнуся дахаты, а тут пустка. Мусіць, я ўжо застануся ў дзеўках. Але... я адчуваю сябе шчаслівай, бо прынамсі маю аб чым думаць, чакаю, калі паеду ў Варшаву, убачу яго. Ці добра я раблю, Сэрцайка?!

**Міля**

Міля! Кожны чалавек будуе сваё жыццё па-свойму. Галоўнае, каб ён адчуваў сябе шчаслівым. Тваё шчасце ў тым, што ёсць у цябе пра каго думаць. Іншыя палічылі б, што ты зруйнавала жыццё, зламала сваю псіхіку, бо не можаш заняцца нікім іншым. А ты, бач, шчаслівая. І можа гэта ў даны момант для цябе найважнейшае. Рэфлексіі прыйдуць, калі пастарэеш і апамятаешся, што няма каля цябе нікога блізкага, ні мужа, ні дзіцяці. Але будзе ўжо позна, Што ж, ні ты першая, ні апошняя, што засталася ў дзеўках.

**Сэрцайка**